Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 41 (4790) 17 кастрычніка 2014 г.

# Нябесная гармонія



Іван Дмухайла «Размова з небам (Сафія Полацкая)», 1990 г.

Артыкул чытайце на стар. 16



















## Пункцірам

✔ Мастацкая адукацыя, як і раней, павінна ўваходзіць у агульную адукацыйную сістэму, падтрымлівацца і рэгулявацца непасрэдна дзяржавай. Такую думку выказаў Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч падчас калегіі Міністэрства культуры, дзе разглядалася пытанне аб стане і перспектывах развіцця вакальна-харавых спеваў у краіне.

✔ У наступным годзе ў Беларусі будзе завершана работа над Кодэксам аб культуры, аналагаў якому ў свеце няма. Тут будуць сабраныя ўсе прававыя акты ў галіне культуры, што існуюць у нашай краіне. Паводле першага намесніка міністра культуры Беларусі Ірыны Дрыга, такі досвед стане ўнёскам не толькі ў айчыннае, але і ў сусветнае заканадаўства ў галіне культуры.

✔ XXI Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» пройдзе з 7 па 14 лістапада пад дэвізам: «Такое рознае кіно!» Тым самым арганізатары робяць акцэнт на разнастайнасці фільмаў, прадстаўленых як у конкурсных, так і ў пазаконкурсных праграмах. Гледачоў чакае ігравое і дакументальнае кіно, сусветныя прэм'еры прызнаных майстроў і дэбюты маладых рэжысёраў.

✔ Італія мае намер правесці ў Беларусі выстаўку шэдэўраў жывапісу эпохі Адраджэння. Паводле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Італіі ў Беларусі Стэфана Б'янкі, праект мяркуецца рэалізаваць у 2015 годзе сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі.

✔ Фільм «Перакрыжаванне» беларускага рэжысёра Настассі Мірашнічэнка пра жыццё бяздомнага мастака з Гомеля Валерыя Ляшкевіча стаў пераможцам XXV Адкрытага фестывалю дакументальнага кіно «Расія» ў трох намінацыях: «Лепшы фільм пра чалавека-стваральніка», «Лепшы дэбют» і «Прыз сімпатый гледачоў».

✔ Міжнародная сустрэча па пытаннях супрацоўніцтва памежных рэгіёнаў Літвы і Беларусі ў сферы турызму прайшла ў Друскінінкаі. Удзельнікі мерапрыемства абмеркавалі стратэгію супрацоўніцтва і новыя сумесныя праекты.

✔ Выкладчыкі Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ з 9 па 25 кастрычніка праводзяць у навучальных установах Мінска і Мінскай вобласці серыю майстар-класаў, прысвечаных кітайскай традыцыйнай культуры і мастацтву.

✔ Рэгулярны парк, ці італьянскі сад, закладзены на мяжы XVI — XVII стст. на тэрыторыі замкавага комплексу «Мір», плануецца аднавіць у 2015 — 2016 гг. Участак уключыць і пейзажны парк з мемарыялам мірным жыхарам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

✔ XIII Рэспубліканскі конкурс маладых эстрадных выканаўцаў «Белазаўскі акорд» пройдзе 25 — 26 кастрычніка ў Жодзінскім Палацы культуры ААТ «БЕЛАЗ». У конкурсе бяруць удзел індывідуальныя выканаўцы і вакальныя ансамблі з Беларусі, Расіі ды Украіны.

# Нашы ў Германіі

У Германіі завяршыўся адзін з буйнейшых кніжных кірмашоў. Беларусь прадстаўляла дэлегацыя Міністэрства інфармацыі краіны на чале з начальнікам упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Аленай Паўлавай.

Выстаўка з'яўляецца даволі прадстаўнічай. Удзел у ёй прымаюць дзясяткі краін, сотні кніжных выдавецтваў і паліграфічных прадпрыемстваў. Заключаюцца дамовы, вызначаюцца абсягі будучага супрацоўніцтва. Сёлета ў Франкфурце-на-Майне Выдавецкі дом «Звязда» пазнаёміў наведвальнікаў з кнігамі, якія прыйшлі з друкарняў у апошні час. А гэта — «Апошні прытулак салдата» (сапраўдны мартыралог захаванняў салдат Першай сусветнай вайны), альбом-манаграфія «Партызанская зброя», кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў М. Чаргінца, У. Саламахі, А. Марціновіча, Ю. Фатнева, Г. Марчука ды інш.

Падрабязная справаздача ад карэспандэнта «ЛіМа» пра 66-ы па ліку кніжны кірмаш у Франкфурце-на-Майне ў сёлетнім кастрычніку — у наступным нумары газеты.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Пераможцы вызначаны

Днямі ў Мемарыяльнай зале сталічнага Дома літаратара сустрэліся лаўрэаты літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі і 70-годдзю Вялікай Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй.

У творчым спаборніцтве, арганізаваным Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і падтрыманым Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, узялі ўдзел дзеці, падлеткі і моладзь ва ўзросце ад 10 да 25 гадоў — навучэнцы, студэнты і супрацоўнікі 192 арганізацый. Увогуле, статыстыка конкурсу ўражвае: сюды паступіла 1786 твораў ад 603 аўтараў!

Журы — пісьменнікі Наталія Касцючэнка, Іна Фралова, Мікола Шабовіч, Іосіф Рогаль — узначаліў старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Завіталі на цырымонію ўзнагароджання сябры СПБ Вольга Шпакевіч і Яна Явіч, а таксама пісьменнікі-франтавікі Алесь Савіцкі ды Мікалай Іваноў.

Конкурс праходзіў у трох узроставых катэгорыях: 10 — 14, 15 — 18 і 19 — 25 гадоў. У малодшай узроставай катэгорыі ў намінацыі «Проза» 1-е месца заняла Ганна Шынкевіч (СШ № 13), 2-е — Ганна Трухманава (гімназія № 75). У намінацыі «Публіцыстыка» 1-е месца прысуджана Дзіяне Бачыла (СШ № 64), 2-е — Яне Берташ (СШ № 77) ды Анатолю Семіненку (в. Ляды Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці). А 3-е месца падзялілі Кацярына Салаўёва (СШ № 34), Вікторыя Сайкоўская (гімназія № 12) і Ганна Пралыгіна (гімназія № 25). Менавіта Ганна Пралыгіна стала лепшай у намінацыі «Паэзія», дзе 2-е месца — у Дзяніса Селядцова (СШ № 34), а 3-е — у Алёны Канаваленка (гімназія № 1) і Хрысціны Лосевай (гімназія № 25).

У намінацыі «Проза» сярэдняй узроставай катэгорыі 1-е месца прысуджана Арыне Карповіч (СШ № 207, Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ранак»), 2-е — Антосю Спясівых (гімназія № 7), 3-е — Анастасіі Кончыц (СШ № 167). У намінацыі «Публіцыстыка» 1-е месца заняла Тацццяна Цэха (СШ № 179), 2-е — Анастасія Юр'ева (СШ № 179) і Уладзіслаў Ходзікаў (Мінскае ваеннае суворагаўскае вучылішча), праца якога была прысвечана творчасці Алеся Савіцкага. 3-е месца падзялілі Марыя Лебедзева (СШ № 179), Дар'я Шчавялёва (СШ № 34), Марыя Дарашкевіч (СШ № 145) ды Іван Піменаў (СШ № 77). У намінацыі «Паэзія» 1-е месца ў выпускніцы СШ № 73, а сёння ўжо студэнткі Кацярыны Массэ, 2-е — у Кацярыны Свігач (гімназія № 13), 3-е — у Тамары Бурачэўскай (СШ № 13) і Рамана Глушакова (СШ № 179).

А ў старэйшай узроставай катэгорыі ўганараваныя толькі паэты. 1-е месца аддадзена студэнтцы БДПУ імя Максіма Танка Алене Басікірскай, 2-е — студэнтцы БДУ Тацццяне Купрыянец і педагогу-арганізатару СШ № 198 Кацярыне Кляцко, 3-е — курсанту Акадэміі МУС Беларусі Уладзіславу Камінскаму, вайскоўцу Віталю Касперцу і пагранічніку з Брагінскага раёна Максіму Ролiку.

Вершы Ганны Пралыгінай, Кацярыны Массэ ды Алены Басікірскай госці імпрэзы пачулі ў аўтарскім выкананні. Лепшыя творы пераможцаў конкурсу будуць выдадзены ў серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы» асобным зборнікам.

**Арына КРАЙКО**

# «Бярозка» шукае сяброў

Абноўлены часопіс «Бярозка» ўжо прэзентаваўся на старонках «ЛіМа». Сёння супрацоўнікі выдання звяртаюцца да вучняў і дырэктараў школ, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, кіраўнікоў літаратурных студый, навуковых секцый, творчых гурткоў і аб'яднанняў з суперпрапановай.

Запрашаем вучняў сярэдніх і старэйшых класаў з літаратурнымі здольнасцямі дасылаць свае вершы і апавяданні пад рубрыкай «Верасок». Адрас для тэкстаў: bjarozka@mail.ru.

Прапануем старшакласнікам, якія мараць паспрабаваць сябе ў журналістыцы, друкавацца пад рубрыкамі «Школа журналістыкі», «Я сардэчка Беларусь» і ў блоку юных калумністаў. Да друку прымаюцца матэрыялы ў форме інтэрв'ю, рэпартажаў, артыкулаў, нарысаў, эсэ і блогерскіх постаў на актуальныя тэмы, створаныя самастойна або з дапамогай настаўнікаў. Адрас для тэкстаў: vdsd@tut.by.

Прапануем дырэктарам школ узяць удзел у інтэрактыўным праекце «Настаўніцкая на праслушцы» (карэспандэнт «Бярозкі» па папярэдняй дамоўленасці выязджае ў школу, каб запісаць і надрукаваць жывую гутарку настаўнікаў на актуальныя тэмы). Тэлефон для прапаноў: 8-017-284-85-25.

Прапануем настаўнікам (кіраўнікам гурткоў і студый) стаць аўтарамі наступных рубрык: «Практыкум» (у цікавай, папулярнай, дасціпнай форме вучыць пісаць вершы, апавяданні, школьныя сачыненні і г. д.; аналізуе і выпраўляе тыповыя стылістычныя і іншыя памылкі; прапануе хатнія заданні); «Бел.літ.» (тлумачыць твор школьнай праграмы ў нестандартнай, захапляльнай форме); «Табе навука» (пазапраграмныя звесткі па фізіцы, матэматыцы, хіміі, біялогіі, астраноміі ды іншых дысцыплінах, выкладзеныя навукова-папулярным стылем). Адрас для тэкстаў: vdsd@tut.by.

З фарматамі рубрык і ўзорамі матэрыялаў можна азнаёміцца ў пілотным нумары «Бярозкі», змешчаным пад вокладкай часопіса «Маладосць» (№ 8 бягучага года).

Сутнасць новай «Бярозкі» ў тым, што яна павінна стаць выданнем, якое дзеці не толькі чытаюць, але і ствараюць. Кожны зацікаўлены падлетак мае поўнае права абвясціць сябе аўтарам і вядучым пэўнай рубрыкі, любы гурток або школьны клас на чале з настаўнікам можа дзяжурыць па нумары.

Увага! Стаць сябрам часопіса «Бярозка» і клуба сяброў «Бярозкі» можа любая школа краіны. Для гэтага трэба, каб на выданне (на паўгоддзе) падпісалася не менш чым пяць класаў адной школы. Сяброўства азначае наступныя прывілеі: размяшчэнне назвы і нумара школы на спецыяльнай старонцы; размяшчэнне на сайце часопіса спасылкі на сайт школы; першачарговае права на сустрэчы са знакамітымі паэтамі і празаікамі на ўроках літаратуры і класных гадзінах.

*Льготная падпіска для структур адукацыі і культуры — праз індэкс 748794, кошт — 28 000 рублёў за нумар, 84 000 рублёў за квартал, 168 000 рублёў на паўгоддзе.*

# Паэтычнае суседства

Польскія паэты з Варшавы Аляксандр Наўроцкі і Барбара Юркоўская былі нядаўна гасцямі Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Аляксандр — аўтар 15 паэтычных зборнікаў, перакладчык твораў з рускай, балгарскай, украінскай, сербскай, вугорскай, фінскай, англійскай і французскай моў, а таксама выдавец (прыватнае выдавецтва «IBIS»), галоўны рэдактар часопіса «Паэзія сёння». З 2001 года з'яўляецца арганізатарам Міжнародных дзён паэзіі ЮНЕСКА, з 2008-га праводзіць фестывалі славянскай паэзіі.

Барбара выпусціла два паэтычныя зборнікі. Яе вершы і пераклады прозы Івана Буніна і Тацццяны Талстой публікаваліся ў многіх літаратурных часопісах.

Госці пазнаёміліся з горадам, наведалі Брэсцкую крэпасць, Белавежскую пушчу, Ружанскі палацавы комплекс Сапегаў і шмат іншых знакавых мясцін нашай краіны. Сустрэліся з літаратарамі і творчай інтэлігенцыяй, са студэнтамі і выкладчыкамі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, пісьменнікамі ў Навагрудку і Кобрыне, бралі ўдзел у літаратурна-музычным вечары «Паэзія без межаў» у Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы.

Па выніках візіту ў Брэсцкім аддзяленні СПБ адбыўся «круглы стол» «Паэзія сёння — міжнародны аспект», падчас якога былі абмеркаваны планы супрацоўніцтва польскіх пісьменнікаў з Брэсцкім аддзяленнем СПБ.

**Аляксандр ЮДЗІЦКІ**

# Палітра колераў і гукаў

Беларускі мастак Уладзімір Хін шмат гадоў займаецца інтэлектуальнай графікай. Яго карціны выстаўляюцца ў многіх краінах свету: Расіі, ЗША, Германіі, Францыі, Ізраілі. Значная частка графічных работ — водгукі на творы сусветнай літаратуры.

Уладзімір Хін цікавіцца праблемай сінтэзу ў мастацтве: слова і выяўленчых сродкаў, колеру і гуку, прасторы і часу… Літаратурны тэкст прыцягвае мастака неадназначнасцю: ён можа быць зразумелым і ў той жа час хаваць шмат тайнаў, сімвалаў, загадак.

Асаблівае месца ў творчасці графіка займае класік нямецкай літаратуры, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Герман Гесэ. У галерэі «Атрыум» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё выстаўкі У. Хіна, арганізаванай з дапамогай Інстытута імя Гётэ ў Мінску. Экспазіцыя прысвечана раману Германа Гесэ «Стэпавы воўк». Серыя лінагравюр гарманічна дапаўняе твор. Раман атрымаў новы, арыгінальны варыянт напісання: не словамі, а выяўленчымі сродкамі. Экспазіцыю ўзбагацілі кнігі класіка — на рускай і нямецкай мовах.

Куратар выстаўкі, мастацтвазнаўца Тамара Карандашава выказала думку, што галоўны герой твора, Гары Галер, вельмі блізкі мастаку. Уладзімір Хін здолеў перадаць глыбіню думак аўтара, захаваць асаблівы музычны рытм твора. Гравюры вельмі падобныя да рамана па сваім настроі: таксама экспрэсіўныя, напружаныя, кантрасныя. Падчас работы ў мастака нарадзіўся асаблівы чорна-белы стыль, які добра перадае кантрасты чалавечага жыцця. Кожны ліст мае своеасаблівую структуру: за мноствам ліній, рысак, літар, знакаў, кропак хаваецца глыбокі сэнс. Гравюры напоўнены разважаннямі, асацыяцыямі, думкамі, якія ўзніклі ў аўтара падчас прачытання твора.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Узвышанае ды зямное

Выстаўка фатаграфій Уладзіміра Чыкіна «Балет & Горад. Менск» з серыі «Філасофія гармоніі» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Вытанчаныя, лёгкія, нібы пёркі, балерыны нацыянальнага балета ў беласнежных сукенках «пасяліліся» на фоне мітуслівых закуткаў сучаснага мегаполіса, з яго суровай архітэктурай і людзьмі, якія заклапочана спяшаюцца па сваіх справах. У гэтым — галоўная тэма праекта Уладзіміра Чыкіна.


*Пешаходны пераход, праспект Незалежнасці ў г. Мінску.*

Мастацкі эксперымент, створаны рукамі творцы, пераносіць класічны балет са сцэны ў абсалютна чужое для яго асяроддзе. Але ажыўленыя панарамы горада толькі падкрэсліваюць велічнасць і дасканаласць мастацтва, якое непадуладна часу і актуальна заўсёды.

Лошыцкі парк, Нацыянальны мастацкі музей, парк Янкі Купалы, панадворкі, праспекты і набярэжныя — месцы, міма якіх мы праходзім кожны дзень, сталі галоўнымі дэкарацыямі для фатаграфій. Аўтар праекта Уладзімір Чыкін адзначыў, што ў кожнай фатаработы ёсць свая гісторыя, прычым багатая на нечаканасці і экспромты. Ён распавёў пра дождж, які ледзь не перашкодзіў здымкам, жанчыну з ружамі, якая выйшла з аўтобуса, і журботнага хлопчыка, чыя дзяўчына не прыйшла на спатканне. Выпадковыя героі фатаграфій сталі блізкімі кожнаму з нас.

Намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Надзея Усава падкрэсліла, што праект «Балет & Горад. Менск» сапраўды ўнікальны. «Я была сведкам яго стварэння. Балерыны адчувалі сябе вельмі камфортна — літаральна зліліся з рамантычнай атмасферай сярод карцін і скульптур. Шкада, што ў калекцыю не ўвайшла работа, дзе дзяўчыны маршыруюць разам з курсантамі па вуліцы Леніна. Але гэты факт пацвярджае: усё, што вы бачыце на экспазіцыі, — толькі малая доля таго, што зрабіў Уладзімір Чыкін», — паведаміла Надзея Усава.

Майстар, як прыхільнік абсалютнага натуралізму, у сваіх творах абыходзіцца без графічных рэдактараў. Уладзімір Чыкін умее заўважаць прыгожае ў паўсядзённым жыцці. Пры гэтым сцвярджае, што фатаграфія для яго — не праца, а хобі, але такое моцнае, што займае значную частку жыцця.

Фатограф — вельмі рознабаковая асоба. Біёлаг па адукацыі, дызайнер, эксперт у галіне антыкварыяту, Уладзімір Чыкін заснаваў тры галерэі — «Наследие веков», «DEVE Gallery Brugge — Moscow» (у Маскве і Бругу). Больш за тое, як чалавек вельмі актыўны і творчы, ён стварыў міжнародны фотапраект «GROUP 7», які аб'ядноўвае маладых і перспектыўных майстроў.

Праект фотаработ «Балет & Горад. Менск» рыхтаваўся ў траўні гэтага года пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Бельгіі і асабіста пасла Андрэя Еўдачэнкі, Ганаровага Консула Бельгіі ў Рэспубліцы Беларусь Філіпа Вандэнбруле, дырэкцыі, супрацоўнікаў і артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета нашай краіны, у прыватнасці яго дырэктара Уладзіміра Грыдзюшкі. Экспазіцыю можна пабачыць да 27 кастрычніка.

**Марыя ВОЙЦІК**

# З калекцыі гісторыка

**Часопіс сатыры і гумару «Вожык» мае вельмі цікавую гісторыю. У гэтым пераканаліся госці выстаўкі, якая адкрылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5. Выданне прайшло складаны шлях — ад баявога агітплаката да часопіса сатыры і гумару.**

Экспазіцыя сапраўды ўнікальная: Выдавецкі дом «Звязда» прадставіў больш як 20 арыгінальных выпускаў газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» са збору калекцыянера і гісторыка Уладзіміра Ліхадзедава — ад самага першага нумара.

Гісторыю часопіса падчас сустрэчы распавяла галоўны рэдактар «Вожыка» Юлія Зарэцкая. Выданне з'явілася ў 1941 годзе на Гомельшчыне. Баявы агітплакат выдаваўся для партызан і насельніцтва акупіраванай тэрыторыі. У лістку друкаваліся фельетоны, памфлеты, жарты, апавяданні, вершы… Выданне высмейвала фашыстаў і іх памагатых, заклікала да барацьбы з ворагам. Рэдакцыя рухалася за лініяй фронту (з 1942 года газета-плакат выдавалася ў Маскве) і аб'яднала вакол сябе нямала выбітных асоб, знакамітых пісьменнікаў і паэтаў. У выданні друкаваліся творы класікаў беларускай літаратуры: Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, К. Крапівы, Я. Брыля, В. Віткі, А. Астрэйкі і іншых.

Пра афармленне лістка распавёў Сяргей Волкаў, мастак-карыкатурыст «Вожыка», у рэдакцыі якога ўсё жыццё працаваў яго бацька, вядомы жывапісец і графік Анатоль Волкаў. Над афармленнем выдання ў розныя часы працавалі З. Азгур, А. Шаўчэнка, Д. Красільнікаў, Б. Звінагродскі, В. Букаты. Значнае месца ў агітацыйным лістку займала палітычная карыкатура, злабадзённыя ілюстрацыі, жанравыя замалёўкі. А на першай паласе змяшчаўся сатырычны плакат.

На адкрыцці экспазіцыі прысутнічалі «дзеці вайны» — беларускія паэты Уладзімір Мацвеенка і Ніна Галіноўская, — а таксама вучні сталічнай школы № 10. Творцы ўзгадвалі той трагічны час, чыталі ўласныя вершы, прысвечаныя падзеям вайны.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Вяртанне Паўночных Афін

Палац Агінскіх у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна адкрыўся пасля рэстаўрацыі. Гэтай падзеі доўга чакалі ўсе прыхільнікі творчасці Міхала Клеафаса Агінскага, знаўцы даўніны, а таксама нераўнадушныя да гісторыка-культурнай спадчыны.

І хаця да 250-гадовага юбілею знакамітага грамадскага дзеяча і кампазітара яшчэ цэлы год, адкрыццё яго сядзібы сведчыць, што на наступны год свята атрымаецца ўрачыстым. Тым больш што юбілей з дня нараджэння М. К. Агінскага ўключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА на 2015 год.

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў выказаў упэўненасць, што музей-сядзіба слыннага кампазітара стане месцам правядзення музычных фэстаў і канцэртаў, куды будуць прыязджаць госці з розных краін свету.

— Наднёманскі край багаты на таленавітых людзей, якія зрабілі важкі ўнёсак у культурную спадчыну, — адзначыў старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў і падкрэсліў, што абласныя ўлады будуць заўжды падтрымліваць мясцовую ініцыятыву, каб захаваць «разынкі» накшталт Залесся.

Па словах актыўнага прыхільніка адраджэння сядзібы Уладзіміра Шчаснага, шмат што ўжо зроблена: вернуты архіў Агінскіх, напісаны кнігі пра славуты род, выдадзены музычныя дыскі спадчыны кампазітара, створана аснова для будучай музейнай экспазіцыі.

Пры садзейнічанні Міністэрства культуры і мясцовых улад у будучым годзе аб'ект будзе гатовы, а ў сядзібе адкрыецца музей.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

# Край спеўны

XI фестываль народнай творчасці Мінскай вобласці «Напеў зямлі маёй» адбыўся ў раённым Доме культуры г. Мар'іна Горка.

Праводзіцца з 2001 года і адразу стаў галоўным фестывалем аматарскай творчасці Міншчыны, ахапіўшы ўсю жанравую палітру народнага мастацтва.

Фестываль можна лічыць своеасаблівым экзаменам для калектываў і іх кіраўнікоў. Журы ўзначальвае мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, старшыня Беларускага саюза музычных дзеячаў, прафесар Міхаіл Дрынеўскі. Ганаровы госць фэсту — старшыня Беларускага саюза кампазітараў, прафесар Ігар Лучанок.

Сёлета ў конкурснай праграме ўзялі ўдзел 32 народныя і ўзорныя аматарскія калектывы. Гран-пры атрымалі прадстаўнікі Любанскага раённага цэнтра культуры — народны ансамбль народнай песні «Ярыца», фальклорны калектыў «Журавушка» і ўзорны фальклорны ансамбль «Верабейкі». Яны атрымалі галоўны прыз — мікрааўтобус. Пераможцы ў кожным жанры атрымалі каштоўныя прызы: камп'ютары для студыі гуказапісу і музычныя інструменты.

**Міра ІЎКОВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**18 кастрычніка** — *на гарадскі суботнік па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Збор у 9:45 у парку імя У. Чавеса (дыспетчарская станцыя «Кунцаўшчына»).*

**21 кастрычніка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на свята паэзіі «Жыццё — як песня». Удзел бяруць паэты Міхась Пазнякоў, Анатоль Аўруцін, празаікі і крытыкі Уладзімір Гніламёдаў і Алесь Марціновіч. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**21 кастрычніка** — *на літаратурнае свята, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння Міхаіла Лермантава. Імпрэза пройдзе ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы (вул. Газеты «Праўда», 20. Пачатак у 14.30.*

**23 кастрычніка** — *у гасцёўню «Паэтычны чацвер» пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на творчую сустрэчу з паэтам Міхасём Башлаковым. Пачатак у 12.30.*

**23 кастрычніка** — *у паэтычны клуб «Парнас» (кіраўнік — паэт Міхась Пазнякоў) пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчы вечар паэта і перакладчыка Андрэя Цяўлоўскага. Пачатак а 18-й гадзіне.*

# Заўжды разам

**Свята паэзіі і песні «Пад адным небасхілам», прысвечанае Беларусі, Расіі ды Украіне і арганізаванае пры ўдзеле Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбылося ў сталічным Доме дружбы.**

Славянскія літаратуры збліжаюць людзей, выхоўваюць узаемнае пачуццё спагады. Гэтая ідэя і сталася лейтматывам імпрэзы, якая нездарма адкрылася песняй «Тры сястры», створанай кампазітарам Нінай Сакаловай на словы старшыні МГА СПБ Міхася Пазнякова. «Нават калі грымяць пушкі, музы не павінны маўчаць», — выказала ўпэўненасць пісьменніца, старшыня таварыства «Беларусь — Расія» Раіса Баравікова. Неабходна, каб славянскія народы шанавалі свае мовы, ведалі літаратуру суседніх краін.

На вечарыне таксама прадставіў свае вершы на рускай і ўкраінскай мовах айчынны паэт з украінскімі каранямі Вадзім Спрынчан. Краінам-суседкам прысвечаны і шэраг паэтычных твораў яго бацькі Браніслава Спрынчана. Некалькі рамансаў па-ўкраінску праспяваў выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Аляксандр Валодчанка пад акампанемент Вольгі Кузоўкінай (фартэпіяна).

У гэты вечар публіка таксама пачула вершы Міхася Пазнякова і песні ў аўтарскім выкананні Анатоля Блізнюка і расіяніна Івана Страмякова.

**Яна ЯВІЧ**

## КОНКУРС «ДА 70-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ»

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» праводзіць конкурс на лепшыя літаратурныя і мастацкія творы сярод школьнікаў нашай краіны, якая ў 2015 годзе будзе святкаваць 70-годдзе Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца ўсе дзеці, якія добра пішуць (на беларускай і рускай мовах) і малююць. Па выніках конкурсу выдавецтвам будзе выпушчана кніга.

Свае малюнкі, свае думкі пра Перамогу, а таксама ўспаміны бацькоў, дзядуляў і бабуль, запісаныя школьнікамі, выдавецтва прымае да разгляду да 1 лютага 2015 года на адрас: 200004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11. «На конкурс «Да 70-годдзя Перамогі». Тэлефон для даведак: 203-31-12.

# Паклікала Свіцязь...

Знакаміты семінар творчай моладзі, які ў цёплыя майскія дні 1968 года праходзіў на Свіцязі, асвятляць у друку прыехалі карэспандэнты многіх рэспубліканскіх газет. Падзея і праўда важная, бо на легендарнае возера былі запрошаны не толькі маладыя паэты і празаікі, але і мастакі, кампазітары, кінематаграфісты, спевакі, навуковая інтэлігенцыя. Сярод газетчыкаў, што з вечнымі пёрамі і блакнотамі адразу абступілі вядомых гасцей семінара, — Я. Брыля, У. Караткевіча, М. Стральцова і іншых, вылучаўся прыроджаным спакоем і тактоўнасцю літаратурны супрацоўнік галоўнай на той час беларускай газеты «Звязда» Зіновій Прыгодзіч. Пра яго я ведаў толькі тое, што два гады таму ён скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, друкуе вершы і прозу, найперш мастацкія нарысы і замалёўкі. А нарадзіўся Прыгодзіч 15 кастрычніка 1944 года ў вёсцы Лышча Пінскага раёна. На ягонай малой радзіме, у маляўнічых ваколіцах Лагішына, мне аднойчы давялося пабываць праездам, і таму я вельмі ўзрадаваўся, калі нас, удвух, пасялілі ў адным пакоі прафсаюзнага санаторыя-прафілакторыя, дзе, уласна кажучы, і праходзіў той памятны Свіцязянскі семінар.

Дзесяць дзён творчай вучобы, плённых сустрэч і знаёмстваў на паэтычным возеры, апетым яшчэ ў баладах і паэмах Адама Міцкевіча, прайшлі вельмі хутка. Як цяпер помніцца, раз'язджаліся па дамах неахвотна, са шкадаваннем і смуткам. Пра свае ўражанні ад семінара Зіновій Прыгодзіч расказаў у карэспандэнцыі «Музы пасябравалі на Свіцязі», надрукаванай неўзабаве ў газеце «Звязда». Для маладога аўтара, пісьменніка і журналіста гэта таксама была карысная і плённая вучоба. Падчас працы ў рэспубліканскай газеце Зіновій Прыгодзіч шмат ездзіць, з новым імпэтам, як кажуць, піша нарысы пра цікавых, неардынарных людзей. Першая кніга публіцыстыкі «Добры дзень, сад!» была выдадзена ў 1974 годзе. Праз два гады пабачыла свет дакументальная аповесць «Строгая дабрата», а яшчэ пра год — дакументальная аповесць «Крылы дужэюць у палёце». У 1979 годзе выйшаў зборнік нарысаў «Жменя зярнят».

Пасля некаторага перапынку, звязанага з працай у аддзеле культуры ЦК КПБ, Зіновій Прыгодзіч вяртаецца да літаратурнай дзейнасці. У 1984 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць ягоная аповесць «Журавы на далёкай пойме», прысвечаная студэнцкай моладзі. Праз год у тым жа выдавецтве пабачыла свет новая аповесць «Ноч перад нядзеляю». Аўтар закрануў вострыя праблемы вёскі, складаныя сямейныя калізіі, узаемаадносіны бацькоў і дзяцей, паказаў багацце і прыгажосць духоўнага свету старэйшага пакалення. Абедзве аповесці становча адзначаны крытыкай, прыхільна сустрэты чытачамі, а сам аўтар быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

У наступныя гады Зіновій Прыгодзіч працягвае актыўную літаратурную працу. У Мінску выходзіць кніга лірычнай прозы «Журба мая светлая», а ў Маскве — том выбраных твораў «Печаль моя светлая». Апошнім часам пісьменнік зноў адчуў цягу да паэтычных жанраў. У рэспубліканскіх часопісах апублікаваны нізкі вершаў, паэма «Кукавала зязюля». Выйшаў зборнік вершаў «Калі б не ты». Выдаў таксама тры кнігі мастацка-дакументальнай публіцыстыкі: «Доўга Карэя будзе мне сніцца», «Крымская сімфонія» і «Шлях поўні». А кнігу «Постаці: з цэлым народам гутарку весці», выдадзеную ў 2011 годзе, многія рэцэнзенты назвалі падзеяй у літаратурным жыцці. У ёй змешчана дзесяць гутарак з найбольш вядомымі, знакамітымі дзеячамі беларускай культуры, якія прадстаўляюць гісторыка-архітэктурную спадчыну і тэатр, музыку і песеннае мастацтва, жывапіс і скульптуру, літаратуру і літаратуразнаўства.

Творчую працу Зіновій Прыгодзіч паспяхова спалучае з педагагічнай і навуковай дзейнасцю. Кандыдат філасофскіх навук, дацэнт. Выкладаў на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. І сёння не парывае сувязі з Інстытутам журналістыкі ў якасці старшыні Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі. Член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Кандрата Крапівы, «Залаты Купідон», прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Пакліканы ў юначыя гады Свіцяззю, да свайго 70-гадовага юбілею Зіновій Кірылавіч прыйшоў з багатым літаратурным набыткам і добрым плёнам у навуковай дзейнасці.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## Зіновій ПРЫГОДЗІЧ



### Не дазваніўся

*Учора і сёння*
*званіў сваёй любай.*
*Але не дазваніўся...*
*За пятым ці шостым разам*
*нечы незадаволены голас*
*раздражнёна адказаў мне:*
*«Такое тут няма...»*
*І паклаў трубку...*
*Відаць, усё-такі я запазніўся.*
*Дзіва што:*
*гэтульکі кіламетраў*
*трэба было прабегчы*
*майму званку!*
*Спачатку ад слупа да слупа*
*па горадзе,*
*затым палямі і паплавамі,*
*праз лясы і балоты,*
*рэчкі і азёры,*
*праз новыя гарады і вёскі...*
*Ды яшчэ, відаць,*
*давялося прастаяць у чарзе,*
*пакуль мой бедны званочак*
*прабіўся нарэшце*
*у той санаторый,*
*дзе адпачывае каханая.*
*Вось яна і не дачакалася...*
*Заўтра пайду на пошту загадзя,*
*каб быў час і на адлегласць,*
*і на чаргу.*

### Адкуль было знаць...

*Сіноптыкі, здаецца,*
*памыліліся і на гэты раз.*
*Прадказвалі,*
*што жнівень будзе*
*сухі і гарачы.*
*А я вось сяджу ў вёсцы*
*і другі тыдзень*
*не магу нікуды вылезці —*
*ні ў лес, ні на возера.*
*Дождж, дождж, дождж...*
*Нешта разладзілася*
*ці то ў зямной,*
*ці то ў нябеснай канцылярыі.*
*Зрэшты,*
*я не наракаю на сіноптыкаў.*
*Адкуль было знаць ім,*
*што гэты месяц*
*будзе не толькі*
*даждж ліва-хмарным,*
*але і такім*
*нескончона-доўгім,*
*такім*
*невыносна-самотным.*
*Без цябе.*

### Усё адносна

*Меў рацыю*
*вялікі фізік,*
*калі выводзіў*
*сваю тэорыю адноснасці.*
*Ведаю гэта па сабе.*
*Бо калі мая любая побач —*
*дні мільгаюць,*
*як звонкія,*
*легкакрылыя ластаўкі.*
*А калі ж мы ў ростані —*
*час пляцецца*
*старою,*
*нямоглаю клячай.*
*А вось бабка Адоська,*
*у якой мінулай вайной*
*загінулі муж і двое сыноў,*
*сцвярджае,*
*што для яе час*
*наогул спыніўся.*
*Яшчэ паўвека назад.*
*Усё адносна...*
*Адносна нашага сэрца.*

### Кардыяграма

*Распласталі мяне*
*на кушэтцы,*
*прывязалі за рукі і ногі,*
*зняволілі грудзі поясам,*
*да якога падключылі*
*дзясятак розных шнуроў,*
*і рухавыя, чуйныя*
*самапісцы*
*найноўшага апарата*
*сталі запісваць*
*маё сэрца.*
*На даўжэзнай*
*бялюткай стужцы*
*атрымаўся*
*дзівосны малюнак*
*з мудрагелістых ліній,*
*якія нагадвалі сабой*
*ці то вострыя пікі гор,*
*ці то няроўныя зубцы*
*векавога бору,*
*што відняўся калісьці*
*за нашаю вёскай*
*і вабіў мяне ў маленстве*
*сваёй неразгаданаю*
*таямніцай.*
*І вось цяпер,*
*углядаючыся ў гэты малюнак,*
*доктар*
*расказваў мне ўсё —*
*да драбніц —*
*пра стан*
*майго ўзбунтаванага*
*сэрца...*
*Але нават*
*архісучаснаму апарату*
*не ўдалося зафіксаваць*
*галоўнае:*
*сярод мноства*
*загадкавых ліній*
*не было*
*найважнейшай —*
*той,*
*якая б засведчыла,*
*як я цябе кахаю!*

### Прыстань журбы

*Штосьці мы знаходзім і губляем*
*штосьці,*
*Не спыніць жыцця імклівае хады...*
*Ты яшчэ ў бальзакаўскім узросце —*
*Мне ж ужо на пенсію*
*праз тры гады.*

*Так нядаўна ты ўзяла й сказала.*
*Праўда, з ціхай ноткай*
*болю і тугі...*
*І адчуў, як быццам кладка запалала,*
*Што даўно яднала нашы берагі.*

*І мяжа выразна праляглa між намі,*
*І ўраз не стала ў берагах вады.*
*А на дне цяжкімі валунамі*
*Стомлена ляжалі*
*ўсе мае гады.*

*Дагарэла кладка...*
*Толькі дыму цені...*
*Нікне долу голле горкае вярбы.*
*Быў твой бераг берагам надзеі,*
*Стаў цяпер мне прыстанню журбы.*

### Бывае так...

*Бывае так. Закапае са стрэх,*
*Павее ветрык цёплы верхам —*
*І на двары умэнт растане снег,*
*Узнімуць птушкі шумны вэрхал.*

*Струну ўзнёсласці кранае смык.*
*Ды лепш стрымаць*
*эмоцыі у межах.*
*Бо то яшчэ не сакавік,*
*А зманліва-каварны снежань.*

*Бывае так. Пунсовая зара*
*Надзеяй трапяткой мяне адорыць.*
*І мары карабель на ўсіх парах*
*Да шчасця шлях імклівa торыць.*

*Калі ж разыдзецца ружовы той туман,*
*Здзіўлюся непрыемнай вестцы:*
*Мой карабель — фантом, падман,*
*А я даўно стаю адзін,*
*на месцы.*

### Канцэрт у Дамініканскім саборы

*І была музыка.*
*І быў цуд...*
*Ніколі яшчэ*
*не даводзілася мне чуць,*
*каб магутнае,*
*мнагатрубнае горла*
*аргана*
*нараджала*
*такія пяшчотныя,*
*такія шчымлівыя*
*гукі.*
*У журботную плынь*
*гэтых гукаў*
*арганічна ўплятаўся*
*мяккі, далікатны*
*спеў трубы.*
*Мелодыю*
*аздабляў, расквечваў,*
*вёў за сабою*
*цудоўна-анёльскі*
*голас спявачкі...*
*І я не заўважыў,*
*як душа мая,*
*разам з гэтай мелодыяй,*
*падхопленая*
*лёгкімі, нябачнымі*
*крыламі летуценняў,*
*закружыла*
*пад скляпеннямі храма,*
*узнялася*
*на галавакружную вышыню*
*прасторнага купала*
*і, развінуўшы сцены,*
*паляцела*
*над старымі, брукаванымі*
*плошчамі,*
*вузенькімі вулкамі,*
*над востраверхімі дахамі мурой,*
*зялёнымі квадратамі паркаў;*
*няспешна-задумліва*
*паплыла*
*над быстрым,*
*шумна-пенным Стрыем,*
*над палогімі, маляўнічымі*
*схіламі Карпат,*
*над заснежанай шапкай*
*прыгажуні Гавэрлы;*
*і падымалася*
*ўсё далей і далей —*
*у самыя горныя высі...*
*...Музыка нечакана скончылася,*
*але цуд*
*усё яшчэ доўжыўся.*
*І я выйшаў з храма*
*са згубленай душою.*
*Добра, што побач*
*была ты,*
*і памагла мне вярнуць*
*маю летуценную*
*вандроўніцу.*

### Зноўку восень...

*Зноўку восень. Наша свята.*
*Разам мы, як і заўжды...*
*Толькі штосьці сумнавата*
*Усміхаешся мне ты.*

*Палім свечку... Ўсё-ткі свята.*
*Здэцца, той жа антураж.*
*Ды чамусьці гаркаваты*
*Пацалунак сёння наш.*

*І не складваецца свята,*
*Быццам хмарка наплыла..*
*Пэўна, сэрцу малавата,*
*Як і восені, цяпла.*

*Вось і скончылася свята.*
*Подых блізкае зімы...*
*Хто у гэтым вінавата:*
*Усявышні?*
*Лёс?*
*Ці мы?*

# Уладзімір ЛІПСКІ

# Лялька

## *Апавяданне*



Не заладзілася жыццё ў бабы Валі.

Адна ўцеха: усе, хто ведаў, звалі яе Лялькай. Яна і сапраўды прыгажуняй удалася. Ёю была, калі ў лялькі гуляла, і калі хлопцы пачалі заўважаць, і калі сына нарадзіла. Яна і цяпер Лялька, знаная на ўсё Узгор'е баба Валя.

* * *

Адчыняю рыпучую брамку з пачарнелага штакетніку і чую хрыплы голас паржавелых завесаў: «Ва-а-ля-я». Бач, нават брамка слугуе бабе. Упускаючы госця, як бы папярэджвае гаспадыню.

Яшчэ й два крокі не ступіў, а баба ўжо кіруе мне насустрач. З крывым кіёчкам. Галава сівая, а вочы зіхатлівыя. Твар упрыгожваюць маршчыны і жвавая ўсмешка.

— Хто гэта во да мяне? — узіраецца пільна і даверліва.

Пра бабу Валю з Узгор'я я пачуў праз дзясяты голас ажно ў Мінску. Казалі, яна вылечыла сына ад раку страўніка. Мне закарцела пабачыць народную лекарку.

Прыселі на ўдовіну лаўку, і я зразумеў, што лаўку зладзіла яна сама. Два бярозавыя цурбаны ледзь заглыблены ў дзірван, а паўзверх сасновы, пачарнелы аполак.

— Відаць, стаміўся, чалавек, пакуль наша Узгор'е адшукаў?

Баба Валя пільна зірнула мне ў твар. Падалося, быццам рэнтгенам пранізала ўсяго. І адразу прыблізіла, прымагніціла сваім шчырым зваротам: «Чалавек». Мая душа як растапілася ад такога даверу. Адчуў у незнаёмцы нейкае сваяцтва, радство.

Пачаў апавядаць, як шукаў Узгор'е. Перад мосцікам не павярнуў крута ўлева, а пакіраваў прама. Трапіў у вёску Селішчы, адтуль — у Чарнейкі. Там паказалі сцежку цераз балота да Узгор'е. Адолеў стромкі саннік з густым чарнічнікам, беластвольны бярэзнік з маладым ельнікам, чорны альхоўнік з дрыготкімі купінамі. А як убачыў буслянку на дубе ды сінія вокны хат, сэрца ад радасці ледзь не выскачыла на волю. Падалося, трапіў у таёжны тупік, які адкрыў некалі Васіль Пяскоў з «Камсамолкі». Там, у сібірскай тайзе, звекавала сям'я Лыкавых. І завяршыла іх адзіноцтва ў дзікай прыродзе Агаф'я. Божа, як падобная і баба Валя з апусцелага Узгор'я на тую жанчыну, якую знайшоў для ўсіх нас нястомны падарожнік Пяскоў!

Але наша баба Валя больш асучасненая ў сваім «тупіку». Пакуль я апавядаў пра бадзянне па незнаёмых каляінах да яе жытла, яна дастала з-за пазухі мабільнік і некаму далёкаму расказала пра мяне:

— Гэто во госця сустрэла… Ага, блукаў, як і ты некалі… Але ж хто шукае, той знаходзіць… Дзякуй, кумок, за мех бульбы. Адслужу па часе. Хай беражэ цябе анёл!..

Баба спрытна апусціла слухаўку да грудзей і запрасіла ў хату.

* * *

Знахарства, як і бяда, завітала да ўзгор'еўскай бабулі нечакана. Можна сказаць, знянацку. Патэлефанаваў доктар з абласной лякарні.

— Валянціна Іванаўна, не палохайцеся, ваш сын просіцца да вас. Кажа, у маці і сцены дапамогуць. Я не пярэчу, можаце забраць…

Сына выпісваюць з бальніцы. Не могуць вылечыць. Трэба ляцець. І баба Валя праз колькі гадзін ужо к абеду была ў бальнічнай палаце. Зжаўцелы яе Мікітка не мог ні ляжаць, ні хадзіць. Скурчыўся, згорбіўся, то прыўставаў з ложка, то прысядаў на табурэцік. А як убачыў маці, прастагнаў:

— Забяры!..

Доктар, які стаяў побач, пагадзіўся:

— Праўда, у вас яму будзе вальней…

Валянціна зразумела: сына аддаюць, каб спакойна развітацца з ім. Але ж хто скажа, што мацярына сэрца не абальецца крывёю, калі пачуе бяду? Хто асмеліцца паверыць, што маці супакоіцца, сядзе і будзе чакаць сынаву канчыну?

— Тут во ляжаў, як прывезла ад лекараў, — баба Валя кіўнула на канапу каля вакна.

Са сцяны, упрыгожанай шпалерамі ў блакітныя ромбікі, пазіралі з самаробных рамак старыя людзі. Яны з той пароды жыльцоў, у вачах якіх уся чысціня, праўда, першабытны давер.

— Во, перад картачкай бацькоў стала тады, памалілася і сказала сама сабе, каб і яны ведалі: «Не аддам Мікітку за проста так!»

Баба Валя прысела на краёчак канапы, як бы яна не ў сваёй хаце, абцерла засмяглыя вусны, пачала шчодра спавядацца, не хаваючы асалоды ад таго, што яшчэ адной жывой душы цікава, як яна ратавала сына.

— Я ж тады, залаты чалавек, аббегала ўсіх узгор'еўскіх жыльцоў. З восьмі хат сабраліся ў мяне народныя знахары. Тады ж мы — што ў пастцы сядзелі. Аптэка — у горадзе. Тэлефон за тры кіламетры ад нас. Магазін — за пяць. Не тое, што цяперака. Во, бярэш гэту цацку (баба дастае з-за пазухі сотавік) і плявузгай што хочаш хоць з самім чортам…

Баба Валя першы раз гучна засмяялася. Маршчыны на шчоках выпраміліся, вочы зазіхацелі. І ўраз хмурынка зноў асела на яе твары.

— Ох ты, Госпад праведны, выслухала я тады ўсіхнія рацэпты і склала свой. Найперш збегала ў стары арэшнік. Тута во недалёка, за лазовай балацянкай. Набрала вясёлак. Грыбы такія. Накідала іх у трохлітровы слоік і заліла спіртным, якое было пад рукой. Давай частаваць Мікітку тым напоем. А ўперамешку — настойка з сухіх мухамораў, цёпленькія яйкі з-пад куры, свежае малако ад каровы, сок са стагадовіка з мёдам. Разжылася несалёнага тлушчу з дзіка, бабра, вожыка. Ох, Божа, лячыла па сваім разуменні. І што вы думаеце, на трэці дзень майго Мікітку перастала ванітаваць. Усміхнуўся: «Мама, падабрэла мне». Пацалавала яго, выбегла ў двор і зараўла. Ніколі не думала, што ад радасці можна так наўзрыд плакаць…

Баба Валя і цяпер не ўтрымалася. З вачэй скаціліся гарачыя слёзкі. Яна іх не выцірала, не саромелася — прызналася:

— Так во, залаты чалавек, два даўжэзныя гады, з дня ў дзень змагалася за Мікітку.

— І дзе ён цяпер?.. Як пачувае? — не ўтрымаўся я і першы раз парушыў этыкет журналіста, — перапытаў апавядальніцу.

— Дзе?.. На экскаватары робіць, як і рабіў. Жыве пад Мінскам, двое сынкоў у яго… А як вярнуўся ад мяне і завітаў на работу, дак усе дзіваваліся: «Мікіта, ты ж, казалі, памёр». Не маглі паверыць у цуд і медыкі, калі ён прыйшоў да іх, каб знялі інваліднасць.

У святліцы, дзе мы сядзелі, павісла мёртвая цішыня. Я быў ашаломлены ад пачутага. А баба Валя — стомленая ад аповеду, успамінаў. Першай ачомалася гаспадыня і спытала:

— А вы, залаты чалавек, з якой бядой завіталі?.. Чым магу вам падсобіць?.. Да мяне цяперака багата хадакоў…

— Я проста прыехаў… Пабачыць вас захацеў. Чуткі пра вашы лекі далёка разляцеліся…

— Не знахарка я, залаты мой. Проста не паверыла, што сын можа раней мяне памерці…

* * *

Сонца ва Узгор'і ўзыходзіць з-за густога, кашлатага вербалоззя. Там у сваю пару ладзяць гастролі прылётныя салаўі. Там усё лета чырыкаюць нястомныя вераб'і.

Калі сонца прачынаецца, над вербалоззем млее, плавіцца неба. Нейкі волат-каваль раздзьмухвае шырознае полымя. Яно ж вельмі хутка ўздымаецца ўвысь, і тады запальваецца ранішнім ззяннем антэна на хаце бабы Валі, святлеюць вокны.

Досвіткам яна тупае то з хаты ў хлеў, то з хлява пад павець, то ў склеп, то да студні. І робіць свае «ўходжванні» спакойна, ціха, каб не патрывожыць мой сон. А я, яе начлежнік, даўно не сплю. Ды, бадай, і не спаў усю ноч. У нейкіх мроях бавіў той час, які заставаўся на сон. Перад ложкам як бы паўставаў Мікіта-экскаватаршчык і хацеў, смеючыся, загрэбці мяне ў самазвал. Раптам з нябёсаў апусціліся ва Узгор'е вусаты, мажны бацька Валянціны і яе маці, маленькая, уся ў белым, як анёлка. Яны чамусьці моўчкі ўзіраліся ў мяне, быццам прасілі: «Толькі не пакрыўдзі нашу дачушку». Бог з вамі, хацеў сказаць ім. Я ж з дабром завітаў да яе. Хачу ўславіць на ўсю краіну.

Але як і што напісаць пра бабу Валю?

Яна вырвала з абдымкаў смерці сына — гэта яе і мужнасць, і сутнасць маралі, і змест характару, і споведзь перад бацькамі, мацярынскім сумленнем. Але ўсё гэта якім чынам яна назапашвала, з якіх кветак узгор'еўская пчолка збірала нектар? Як узвышала і гартавала сваю душу?

Нечакана мой позірк прыпыніўся на шафе, якая стаяла за шырмай. За той квятастай адгародкай — ложак гаспадыні, старая швейная машынка, куфэрак з бялізнай. Усё гэта яна даверліва паказала мне яшчэ ўчора, калі знаёміла з сядзібай, хатай. Але толькі раніцай я прыкмеціў на шафе ляльку, вельмі ж падобную да сучасных мадэляў, удзельніц конкурсаў прыгажосці. Чаму гаспадыня так узвысіла дзіцячую забаву з бялявымі кудзерамі і блакітнымі азёркамі вачэй? У яе ж сям'і гадаваўся хлопчык? Мо гэта цацка была не яго? Тады чыя яна? І чаму, урэшце, бабу Валю завуць Лялькай?

Падалося, я намацаў, адшукаў, адкрыў кнопку, націснуўшы на якую, даведаюся тайну.

* * *

— Тэта во бабай зрабілася няўзнак, — Валянціна Іванаўна зірнула ў акно, і позірк яе застыў недзе далёка-далёка, а пасля як бы ачнулася і пачала спавядацца. — Дзяцінства маё вайна скрала. Трошкі пабыла дзяўчынай. Схадзіла ў замужжа, бы ночку пераначавала. Наглыталася пасля ўдовіных слёз. І во цэлую вечнасць — баба. Кароткая мая біяграфія, залаты чалавек, няма за што зачапіцца…

— А чаму вас Лялькай завуць? — учапіўся я, бытта тапелец за саломінку, хацелася раздзьмуць жар успамінаў у маёй субяседніцы.

Баба Валя рэзка паднялася з-за стала, дзе мы пілі ліпавы чай, моўчкі пайшла ў святліцу. Праз якую хвіліну вярнулася з лялькай, якую я прыкмеціў на шафе. Пасадзіла бландзінку каля электрычнага чайніка. Тая памахала доўгімі вейкамі і ўставілася на нас лупаценькімі, круглымі вочкамі, бытта падрыхтавалася яшчэ раз слухаць даўно вядомы ёй аповед гаспадыні.

— Пасля вайны мама недзе раздабыла для мяне гумавую ляльку, — баба Валя скупа ўсміхнулася, як бы ўбачыла перад сабой тую далёкую, жаданую цацку. — І я тэта во з ёй і спала, і ела, і курэй карміла. Ды аднойчы суседка Мілка выманіла ў мяне тую ляльку. У яе быў жывы верабейчык. У амбары бацька злавіў. Шэранькі. Цёпленькі. Яму ўсё хацелася драмаць і піць. Кажу: «Міла, дай мне пагуляць з верабейчыкам». Пагадзілася: «Бяры, а за гэта ляльку тваю дазволь паняньчыць». Так мы і зрабілі…

Баба Валя глытнула гаючай ліпаўкі, зноў зірнула ў акно.

— А што з тым верабейчыкам сталася, што вы на ляльку выменялі? — вярнуў гаспадыню да распачатай размовы.

— Што, мой залаты?.. Тэта во пагасцяваў верабейчык у нашай хаце тры дні, а тады і след прастыў. Ці то ў фортку сігануў, ці то Мурка ім паснедала... Вельмі ж аблізвалася тым раннем. Але толькі к абеду раскрылася тайна. Верабейчыка знайшлі мёртвым на кухоннай паліцы. Я тады рову дала, дык дала. На ўсё Узгор'е.

Баба Валя трошкі памаўчала, а пасля страпянулася, як некалі птушачка ў яе руках.

— Страціла тады і ляльку, і вераб'я… Мілка заявіла: «Раз так, не зберагла майго верабейчыка, дак от тваю ляльку не вярну». І не аддала. А неўзабаве іх сям'я з'ехала жыць у горад. Я засталася адненькая. Што ж вы думаеце, дзіця без цацак — сіротка…

Гэта праўда, падумаў я, цацкі нас у дзяцінстве не толькі забаўляюць, а лепяць, выхоўваюць з нас людзей. А далей лёс гуляе з намі, як з мячыкам. Дык, выходзіць, цацкі не проста зямныя падарункі, а касмічныя знакі.

Ад якой жа забавы носіць баба Валя мянушку Лялька?

— А тэта во, як я страціла мамін падарунак, дак мяне і сталі абзываць Лялькай. Спярша сама мама ўсцешыла: «Волечка, ты сама Лялечка. Не збірай слёзкі ў ручаёк, будзе табе белка, будзе і свісток». Да дзяцей прыліпла дражнілка і яны не праміналі кальнуць: «Волька-лялька, на вараб'я глянь-ка». І школьныя настаўнікі сарамацілі Лялькай, калі на ўроку «варон лавіла».

Баба Валя расказвала пра сваю мянушку, а я прыгадваў сваіх вяскоўцаў. Адну з нашых жанчын чамусьці звалі Кофтачкай. Мо па зайздрасці, бо мела купленую, ажно ў Аўстраліі кофту. Яе суседку клікалі Ядрона Маць. А ўсё з-за таго, што тая ў размове часта ўжывала гэтыя някрыўдныя словы. Карысталася імі зусім неўпапад, аб чым баіла, і ад гэтага яе гутарковая мова набывала бадзёры каларыт. Дзядзьку Язэпа інакш не называлі, як Смятаннік. Некалі, будучы малым, залез у суседчын склеп і злізаў смятану з усіх збанкоў. Дык і яго дзяцей, унукаў Смятаннікамі абзываюць.

А баба Валя стала Лялькай у абставінах, лічы, трагічных. Дык што ж вы думаеце, ліхія беды, як дакучлівыя мухі, цягнуцца за ёй паўсюдна. Рана асірацела. Нечакана аўдавела. Пасля і сына Мікітку ледзь не страціла.

— О, Божухна, колькі пакут падкаравульваюць чалавека ў віры жыцця!..

* * *

Са шчымлівым сэрцам і жалем пакідаў я Узгор'е. У канцы кароткай і адзінай вуліцы азірнуўся. Хата бабы Валі вылучалася высокай антэнай над пачарнелым дахам, сінімі вокнамі, сівым бярвеннем. Каля дворышча зялёным, кашлатым букетам стаіць ліпа-векавуха. Звонку ўсё жытло як бы занадта спакойнае. Але разварушы попел — і ажыве ў ім гарачае, зыркае вуголле, якое апякае і грэе, лагодзіць і хвалюе. А мая душа поўнілася гонарам і пачуццём першаадкрывальніка.

# Патрыярх фразеалогіі

**Іван Лепешаў — слынны мовазнаўца, які шмат зрабіў для папулярызацыі роднага слова. Вучонага паўнапраўна можна назваць патрыярхам беларускай фразеалогіі і парэміялогіі. 23 кастрычніка Івану Якаўлевічу споўнілася б 90 гадоў.**


Фота з архіва музея ГрДУ імя Янкі Купалы

*«Іван Якаўлевіч пачаў цікавіцца фразеалагізмамі яшчэ ў той час, калі працаваў у школе настаўнікам. Цягам амаль паўстагоддзя навуковец рэгулярна чытаў беларускую літаратуру — дасавецкага, савецкага і пасля-савецкага перыяду. Як казаў сам прафесар, «380 аўтараў перачытана мною». У выніку была складзена картатэка, якая налічвае больш як 90 тысяч картак.*

Радзіма І. Лепешава — вёска Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У 1940 г. скончыў восем класаў Ліцвінаўскай сярэдняй школы, здаў экстэрнам экзамены за дзявяты клас і паступіў у Аршанскі настаўніцкі інстытут, але паспеў закончыць толькі першы курс: вучобу перапыніла Вялікая Айчынная вайна. Ваяваў, быў паранены, узнагароджаны ордэнамі і медалямі, дайшоў да Кёнігсберга.

Навучанне ў Аршанскім інстытуце скончыў у 1948 г., але затым быў беспадстаўна рэпрэсіраваны і 6 гадоў — з 1949-га па 1955 — правёў у савецких канцлагерах на Далёкім Усходзе (рэабілітаваны быў толькі ў 1963 годзе — за адсутнасцю віны).

Некаторы час працаваў настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў розных школах. У 1959 г. закончыў з адзнакай філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы, а потым аспірантуру пры Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага (1971). У 1973 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Фразеалогія ў творах К. Крапівы», а ў 1985 г. — доктарскую дысертацыю «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы». Вучонае званне

*«У апошнім двухтомным выданні «Слоўніка фразеалагізмаў беларускай мовы», складзеным прафесарам Лепешавым, апісана больш як 7 тысяч фразеалагізмаў.*

прафесара прысвоена ў 1986 г., калі Івану Якаўлевічу было 62 гады.

З 1971 г. і да апошніх дзён І. Лепешаў працаваў на кафедры беларускай мовы Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы (цяпер Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы).

Асноўнымі сферамі навуковых даследаванняў Івана Якаўлевіча з'яўляліся фразеалогія, мова мастацкай літаратуры, розныя аспекты культуры мовы і маўлення, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя нормы і выпадкі іх парушэння ў вуснай і пісьмовай мовах.

Першымі працамі ў галіне лексіка-графічнага і тэарэтычнага апісання літаратурнай фразеалогіі сталі «Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы» (з Н. В. Гаўрош і Ф. М. Янкоўскім, 1973), «Фразеалогія ў творах К. Крапівы» (1976).

Спецыфіку мовы мастацкай літаратуры І. Лепешаў раскрыў у кнізе «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (1981) — першае даследаванне такога тыпу і першы дапаможнік па гэтай дысцыпліне. У ёй даюцца прафесійныя тлумачэнні разнастайных моўных таямніц, загадкавых лінгвістычных з'яў, якія сустракаюцца на старонках мастацкіх твораў, прызначаных для вывучэння ў сярэдняй школе. Аўтар пераконвае ў тым, што цэласнае ўспрыманне і ацэнка твора магчымыя толькі пры адзінстве літаратуразнаўчага і лінгвістычнага падыходу.

Плённыя даследаванні вучонага і ў галіне беларускай фразеалогіі. Каля 450 фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы аўтар растлумачыў у «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (1981). І гэта стала першай спробай у беларускім мовазнаўстве стварыць слоўнік такога тыпу. Даследчык раскрыў сэнс, унутраную форму ўстойлівых выразаў са страчанай або зацемненай матывіроўкай сучаснага значэння і інш.

У 1993 г. выйшла другая частка слоўніка, дзе раскрываецца паходжанне каля 900 фразеалагізмаў.

Першая спроба скласці дыферэнцыйны слоўнік дыялектных фразеалагізмаў, сабраных у гаворках Гродзенскай і Віцебскай абласцей, таксама належыць І. Лепешаву — «З народнай фразеалогіі» (1991). Даследаванням у сферы фразеалогіі прысвечаны і такія працы, як «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» (1984), «Фразеалогія сучаснай беларускай мовы» (1998), «У фразеалагічную скарбонку» (2004).


Фота з уласнага архіва Алы Петрукевіч

Прафесар Іван Лепешаў з калегамі, 1981 г.

Плёнам саракагадовых пошукаў стаў «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» ў двух тамах (1993). Другое дапрацаванае і дапоўненае выданне выйшла пад назвай «Слоўнік фразеалагізмаў беларускай мовы» ў 2008 г. у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Для яго стварэння аўтару давялося прачытаць амаль усю беларускую мастацкую літаратуру, каб адшукаць і выпісаць дзясяткі тысяч фразеалагічных цытат. Так, Іван Якаўлевіч згадваў, што фразеалагізмамі пачаў цікавіцца яшчэ ў той час, калі працаваў у школе настаўнікам.

Цягам амаль паўстагоддзя навуковец рэгулярна чытаў беларускую літаратуру і рабіў выпісы. Перачытаў усе творы дасавецкага, савецкага і пасля-савецкага перыяду.

Як казаў сам прафесар, «380 аўтараў перачытана мною». У выніку была складзена картатэка, якая налічвае больш як 90 тысяч картак, і на кожны фразеалагізм прыводзіцца некалькі ўжыванняў. У апошнім двухтомным выданні слоўніка апісана больш як 7 тысяч фразеалагізмаў.

Складзеная картатэка акадэмічнага тыпу дазволіла апісаць амаль усю літаратурную фразеалогію. Гэта фундаментальная праца стала вялікім дасягненнем вучонага, важкім набыткам беларускай лінгвістыкі.

Неабходнасць выдзялення ў курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы асобных раздзелаў парэміялогіі і парэміяграфіі, у якіх павінны вывучацца прыказкі як моўныя адзінкі, што рэальна існуюць, абгрунтоўваецца ў дапаможніку «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства» (2006). Тут упершыню даецца тэарэтычны і часткова практычны матэрыял для сістэматызаванага вывучэння прыказак з семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага пунктаў гледжання.

У «Слоўніку беларускіх прыказак» (1996) даследчык апісвае найбольш ужывальныя прыказкі, тлумачыць іх сэнс, дае сітуацыйную і стылістычную характарыстыку. Выкарыстанне прыказак як моўных адзінак ілюструецца прыкладамі з мастацкіх і публіцыстычных твораў. Паказана, у якіх парэмілагічных зборніках прыводзіцца пэўная прыказка ці яе разнавіднасці. Пры некаторых ёсць даведкі пра паходжанне. У слоўніку таксама адлюстравана варыянтнасць прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі.

*«Навуковыя працы «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (1981), «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» (1981) і «З народнай фразеалогіі» (1991) сталіся першымі ў сваім родзе: першы дапаможнік па названай навучальнай дысцыпліне, першы слоўнік такога тыпу і першая спроба складання дыферэнцыйнага слоўніка дыялектных фразеалагізмаў (даследаваліся гаворкі Гродзенскай і Віцебскай абласцей).*

У 2014 г. быў выдадзены «Этымалагічны слоўнік прыказак».

Даследчык з'яўляецца аўтарам навучальных дапаможнікаў для студэнтаў і вучняў школ «Моўныя самацветы» (1985), «У слоўнікавую скарбонку» (1999), «Практыкум па беларускай мове» (2001, у суаўтарстве), «Сучасная беларуская літаратурная мова: спрэчныя пытанні» (2002), «Чаму мы так гаворым» (2003), «Практыкум па фанетыцы, арфаэпіі, графіцы і арфаграфіі» (2007, у суаўтарстве), «Культура маўлення» (2007), «Лінгвістычны аналіз тэксту» (2009). Вядомы і такія навукова-папулярныя кнігі, як «Дазнанні» (2000), «У пошуках ісціны» (2007), «Літаратура, мова, гісторыя: надзённае» (2010), «Упоравень з часам» (2012), «Перад змяркненнем» (2013).

*«Даследчык з'яўляецца аўтарам манаграфій, слоўнікаў, навучальных дапаможнікаў, метадычных распрацовак і шматлікіх навуковых і публіцыстычных артыкулаў — усяго каля 620 навуковых прац.*

Больш як за чатыры дзесяцігоддзі Іван Лепешаў стварыў шмат манаграфій, слоўнікаў, навучальных дапаможнікаў, метадычных распрацовак, навуковых і публіцыстычных артыкулаў. На даследчыцкім рахунку вучонага каля 620 навуковых прац, сярод іх — 45 кніг, якія прынеслі шырокую вядомасць.

Іван Якаўлевіч Лепешаў памёр у нядзелю 12 кастрычніка.

Развітанне з калегам і настаўнікам многіх сённяшніх навукоўцаў адбылося 15 кастрычніка ў корпусе Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

Рэдакцыя «ЛіМа» смуткуе разам з роднымі і калегамі выбітнага мовазнаўца.

**Кацярына ВАРАНЬКО**

# Лебядзіная песня пралетара

**Трагік, які выходзіць на сцэну ў слязах і рыдае разам з усхваляванай залай, безумоўна, кране ваша сэрца. Але той актор, які прамаўляе страшныя рэчы са смехам і, усміхаючыся, назірае, як гіне і руйнуецца свет — унутраны свет чалавека ці знешні, «аб'ектыўны» — і з той жа ўсмешкай распавядае пра ўбачанае, зробіць на гледача нашмат большае ўражанне. Сяргей Прылуцкі — аўтар некалькіх кніг, адметных трыма рэчамі: гумар (далёка не вясёлы), сюжэты (у тым ліку калі размова ідзе пра вершы) і мова (выбітная і лёгкапазнавальная). Зрэшты, якраз гэтыя тры рэчы і ёсць аснова ўсякага ўдалага літаратурнага твора.**

Некалькі кніг, якія згадваліся вышэй, гэта: зборнік вершаў «Дзевяностыя forever» (2008); кніга прозы «Йопыты двух маладых нелюдзяў» (пад псеўданімам Сірошка Пістончык у суаўтарстве з Уласікам Смаркачом, 2009) і як працяг — «Дэгенератыўны слоўнік», што выйшаў сёлета ў тым жа стылі: трасянка, побытавыя сюжэты; і, урэшце, кніга вершаў «Герой эпохі стабільнасці», пра якую пойдзе гаворка.

Да вершаў Сяргея Прылуцкага падыходзіць са старой класічнай лінейкай катэгарычна нельга. Існуе легенда, што аўтара трэба судзіць па яго ж законах. Дык вось, калі прыняць гэта за праўду, мы мусім сказаць, што галоўны закон паэзіі Сяргея Прылуцкага — праўдзівасць. Яго творы можна было б назваць прозай жыцця, ці жыццёвай праўдай, ці яшчэ якімі-небудзь пафаснымі словамі, якія выглядаюць даволі нікчэмна побач з уласна творчасцю паэта. Таму прасцей назваць гэта ўсё адным словам — «жыццё».

Гэтая праўдзівасць выяўляецца як праз аб'екты, якія бясстрашна, з рызыкай для ўласнай жыццярадаснасці даследуе паэт, так і праз мову, з дапамогай якой Сяргей Прылуцкі занатоўвае свае назіранні і робіць высновы, часта несуцяшальныя.

Чалавек, які шукае ў паэзіі адхлання і забыцця, наўрад ці застанецца задаволены кнігай, бо аўтар бесцырымонна паднясе да яго твару люстэрка — не крывое, не засягнутае прыемнай дымкай настальгіі ці замілавання роднай прыродай, але самае звычайнае, простае, пралетарскае люстэрка, у якім чытач убачыць усе прыкрыя недасканаласці жыцця.

Нават больш — і, відаць, горш (для чытача, канечне, але не для паэзіі): ён убачыць, што гэтыя недасканаласці — плямы сораму на «наедзеных» шчоках, шнары на душы (не дужа чыстай), сівізна на скронях, якая магла б стаць высакароднай, але не стала, — усё гэта перадалося яму ад продка, які гэтак жа пакутаваў і раздумваў, дзеля чаго ён тут і ці варта ўвогуле абцяжарваць гэтую зямлю? І калі люстэрка перад чытачом з'яўляецца на самай першай старонцы, са слоў «шторанку па тратуарах і пляцах / робаты смутку імчаць на працу», то сувязь з далёкім і сумным мінулым выкрываецца на старонцы 30 у вершы «Варыяцыі на тэму заняпаду» (натуральна, выкрываецца яна для тых, хто яшчэ не дайшоў да сумнай высновы раней і сваім розумам). Так, Калізей саступае вежам сучаснага гандлёвага цэнтра, лісты — смс-кам. Небяспечных чужынцаў замяняюць свае родныя (зрэшты, у другой частцы верша геаграфічных указанняў няма) элементы грамадства, якія ў простанароддзі завуцца «гопнікамі». І пад удар прынята цяпер падстаўляць не другую шчаку, але іншую частку цела, і колішнія сектанты, што славілі Бога адзінага, ператварыліся ў вернікаў сусветнай рэлігіі, а на іх месца прыйшлі баптысты. Толькі ўсё гэта — дробязі, а сутнасць застаецца ранейшай: як і дваццаць стагоддзяў таму, чалавек адчувае, як «страх працінае цела, сягаючы самых ускраін».

Зборнік мае сем раздзелаў — «Mondoverses», «Пацаны», «Чатыры пляшкі піва і твой фотаздымак», «Пралятаючы над гняздом краіны», «Лены, магды, пpарокі, каляды», «Portfolio», «Ars poetica», прычым апошні змяшчае яшчэ і цудоўны «замест паслямовы» «Аўтобус паэзіі». Кожны раздзел бясцам бы прысвечаны пэўнай тэме: смерць, быццё і быт, каханне, грамадзянская лірыка (аднасна вершаў Прылуцкага слова «лірыка» набывае саркастычнае адценне), духоўнае, біяграфічнае і «пра мастацтва». Цікава, што, калі ўзяць зборнік вершаў шараговага аўтара, які скарыстоўвае набалелыя рыфмы і мае згубную страсць да штампаў, тэматычна раздзелы будуць тыя ж, то бок, атрымаецца класічны набор лірыкі «філасофская-грамадзянская-любоўная». У «Героя эпохі стабільнасці» няма хіба што пейзажнай лірыкі, хоць часам дасканалая і самадастатковая прырода выступае фонам для трагікамедыі жыцця чалавека — ці гэта «пацан», які і з'яўляецца героем абазначанай эпохі, ці сам аўтар, які, быццам той удзельнік дыпмісіі, перакладае жыццё свайго героя на мову паэзіі (тут мы заўважым, што Сяргей Прылуцкі перакладчык і ў больш прыземленым сэнсе — з англійскай, польскай і ўкраінскай). Зрэшты, такі склад зборнікаў, у якія ўваходзяць вершы, сабраныя за працяглы час, можна назваць заканамернасцю.

Але пры гэтым акцэнт трэба зрабіць якраз на словах «быццам бы». Справа ў тым, што большасць вершаў у зборніку — пра ўсё адразу, прычым фонам для ўсякага прадмета нязменна застаецца безвыходнасць: з болю, з абрыдлай руціны, з бессэнсоўнасці ўсякага руху душы або цела, з самога жыцця. Зрэшты, з апошняга ёсць выйсце, і ім скарысталіся многія героі твораў Сяргея Прылуцкага. Перад гэтым босхаўскім палатном можна толькі маўчаць, па жаданні — плакаць.

Праўда, сам паэт згадвае Брэйгеля.

Але нельга сказаць, што напісана гэтае палатно адно цёмнымі фарбамі. Усімі колерамі вясёлкі можна расфарбаваць нават труну, у якую паклалі дзіцячыя мары. Сяргей Прылуцкі займаецца не гэтым, як не вышуквае і светлых бакоў паўсядзённасці шэрай масы (як ні дзіўна, шэрую масу складаюць асобы яркія, трэба толькі ўмець прыглядзецца да кожнай). Палёгку, хоць і сумніўную, прыўносіць смех, які выяўляецца ў дробязях: параўнаннях («сэрца трымцідь, быццам бомж пад картонкай»), дэталях ці асобных выслоўях («у памерлых свае цяжкасці і інтарэсы / але пра іх не пішуць у кнігах, не кажуць у прэсе»). Прычым смех гэты нязменна горкі і іранічны, але іронія скіраваная не супраць герояў, пра якіх пішацца ў вершы, — наадварот, да іх аўтар ставіцца з вялікім спачуваннем.

У іншага аматара паэзіі па прачытанні «Героя эпохі стабільнасці» можа ўзнікнуць прэтэнзія, маўляў, свет не складаецца толькі з тых нечыстотаў, якія паказвае паэт. Але, па-першае, паэт апісвае не толькі іх і, што важней, не столькі іх; па-другое, адказаць на такую заўвагу можна словамі самога паэта: «лёгка паддавацца ілюзіі, што ўсё добра / пакуль ты гара і магамет ідзе ў твае горы / пакуль ты плывеш у ружовым тумане, шчаслівы і горды — / і не бачыш... што плёскаецца за бортам».

**P. S.** Паслямову варта адзначыць асобна: у тэксце «Аўтобус паэзіі» Сяргей Прылуцкі даводзіць, што не трэба баяцца паэтычнай нематы. Гэта натуральная з'ява, і «канец слоў» больш чым надуманы. Ніякі гэта не канец. А чарговая перасадка на іншы аўтобус. А аўтобус паэзіі ніколі па раскладзе не ходзіць. І ў перспектыве хадзіць не збіраецца. Як пісаў Рышард Крыніцкі,

*Я маўчаў шмат гадоў.*  
*І што? нічога не здарылася —*

*ні дабрага,*  
*ні благога.*

**Наста ГРЫШЧУК**




# Дом. Душа. Каханне

**У гэты трохкутнік можна ўпісаць кнігу выбраных твораў Вольгі Русілкі «Сцежка, сцежачка, сцяжынка», выдадзеную ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».**

Ідэя назвы зразумелая: вершы розных гадоў, пачынаючы ад 1996-га і заканчваючы цяперашнім, мусяць праілюстраваць шлях, пройдзены аўтаркай як у творчасці, так і па-за ёй; сама кніга і ёсць гэты шлях — згорнуты да 123 маленькіх старонак. І ўсё ж чаго чакаць чытачу ад кнігі з такой назвай? Мне здаецца, на розум прыйдуць творы даволі сумныя, засцягнутыя, напісаныя ў псеўданародным стылі, у той час як вершы Вольгі Русілкі далёкія ад такога апісання.

Усе яны месцяцца паміж двума полюсамі — радзімай і каханнем. Першая тэма ўбірае ў сябе ў тым ліку вершы, прысвечаныя маці, бацькоўскаму дому, продкам, пазней — Віцебску, у якім паэтка жыве, а таксама — Радзіме ў шырокім сэнсе. Калі ж размова заходзіць пра меншае і больш роднае, дарагое, паэтка дасягае найбольшага напружання радка, найбольшай яснасці, дакладнасці, і гэта ніколькі не супярэчыць настальгічнаму настрою, з якім вершы пісаліся і з якім чытаюцца цяпер.

Часта бывае, што пэўны аўтар, жадаючы перадаць настрой лёгкі, зноў жа, настальгічны, лірычны, пачынае нагрувашчваць безліч падобных апісанняў ці занадта разгортвае іх, думаючы, што такая лексічная дымка створыць жаданы эфект. Ці варта казаць, што гэта памылка і што трыма дакладнымі словамі можна перадаць усякі стан? Праўда, шукаць гэтыя словы давядзецца доўга і з пакутамі.

*Яны сваё пражылі:*  
*Рабілі, плакалі, любілі.*  
*І, як радзімкі на зямлі,*  
*Чатыры сціплыя магілы.*

Ні слова пра горыч — і як многа яе ў наступных радках.

*…А сэрца распускае ўвесну*  
*Надзеі клейкія лісты.*

Але гэта ўжо іншая тэма — каханне, якому прысвечана большасць вершаў са зборніка «Сцежка…». Тут паэтка пачуваецца ў сваёй стыхіі. Вершы вельмі простыя — як знешне, так і ў тым, пра што гаворыць аўтарка, — недахопу ў гэтым няма. Прастасць спалучаецца з цэласнасцю і натуральнасцю, а «калі паэзія не нараджаецца гэтак жа натуральна, як лісце на дрэвах, то лепей ёй зусім не нараджацца» (Джон Кітс).

**Магда ПАСКЕВІЧ**

# Цяпло маладзіка

Пісьменнік Уладзімір Гаўрыловіч прысвячае свае апавяданні, аповесці, раманы, нарысы, эсэ, драматычныя творы бацькоўскай зямлі — Тураўшчыне і Жыткавіччыне. Тут, на Палессі, ён нарадзіўся, сфарміраваўся як асоба і творца.

Багацце выдадзеных празаікам кніг уражвае: «Дзе над горадам лунаюць буслы», «Забранае шчасце», «Глыбокія карані», «На варце — днём і ноччу, «Крокі па роднай зямлі» і іншыя. Новая кніга аўтара «Цяпло маладзіка» папоўніла серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Як правіла, героі твораў У. Гаўрыловіча — людзі простыя, але менавіта ў іх прасочваюцца рысы нацыянальнага характару. Аўтар пільна ўглядаецца ў з'явы рэчаіснасці, даследуе паводзіны чалавека ў розных жыццёвых сітуацыях.

Згубленае шчасце, каханне, надзея... Што стане галоўным апірышчам у складаным і супярэчлівым жыцці? Адказ на гэтае пытанне — у рамане «Цяпло маладзіка». Падзеі твора разгортваюцца на жыткавіцкім Палессі — у часы Вялікай Айчыннай і сёння. Псіхалагічна вострыя і адначасова займальныя, арыгінальныя, напісаныя з пазіцыі сучаснасці, апавяданні прысвечаны надзённым клопатам землякоў пісьменніка.

Да падзей далёкай мінуўшчыны нашай краіны чытача скіроўвае гістарычная драма «Маленькая каралева Еўдакія Тураўская», якая таксама ўвайшла ў кнігу.

**Міхась СЛІВА**

# Урокі добрых спраў

Кніга Галіны Пшонік «Чарадзейны калейдаскоп», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», выкладае маленькім хлопчыкам і дзяўчаткам добразычлівасць, шчырасць, уменне радавацца жыццю.

Хто з нас не хлусіў? Але адна справа — калі хлусня для дабра, зусім іншая — каб схаваць кепскія ўчынкі. Горад Хлуск — дзе жывуць толькі хлусы, дзе ўсе злыя і падманлівыя, дзе і расліны могуць прываблівць прыгажосцю, а потым пакінуць на руцэ адметныя драпіны. Калі чалавек аказваецца ў такой атмасферы, то разумее, што падманваць — не самая лепшая справа. Куды зручней заўсёды гаварыць праўду.

Благая гаспадыня? Нічога! Усяму можна навучыцца, дзякуючы вадзяніку і жабе, якія маюць сваё царства, дзе «адчыняюць дзверы» ў розныя хатнія справы. Тут раскажуць, як правільна пячы аладкі, прышываць гузікі, мыць посуд, прыбіраць у памяшканні.

Незвычайныя, нават казачныя сітуацыі, у якія трапляюць маленькія героі, моцна мяняюць іх думкі і стаўленне да іншых.

«Чарадзейны калейдаскоп» — кніга, дзе жыццё мае не толькі чорныя і белыя палосы, тут ёсць і рознакаляровыя урокі добрых спраў.

**Наталля УСЕНКА**

# Прэмія з Сербіі


Фота з сайта bktvnews.com

**Іван Чарота — доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў, акадэмік Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтва і культуры, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ. Член СПБ, а таксама саюзаў пісьменнікаў Расіі, Сербіі. Актыўна выступае ў друку як перакладчык, літаратуразнавец, крытык, эсэіст, публіцыст. Толькі сёлета з-пад яго пяра выйшла 13 кніг, у ліку якіх — анталогія сучаснай беларускай паэзіі «З-пад буслінага крыла», выдадзеная ў Чарнагорыі. Аўтар мноства навуковых прац, у тым ліку на сербскай мове. Лаўрэат шэрагу міжнародных прэмій. А нядаўна Іван Аляксеевіч першым з прадстаўнікоў нашай краіны атрымаў у Бялградзе прэмію Фонду братоў Карыч за ўмацаванне культурных і духоўных сувязей паміж беларускім і сербскім народамі. З лаўрэатам гутарыць карэспандэнт «ЛіМа».**

**— Іван Аляксеевіч, чаму з мноства моў свету для вывучэння выбралі менавіта сербскую?**

— У гэтым ёсць і пэўная выпадковасць, і прадвызначанасць. Калі я быў студэнтам рускага аддзялення філфака БДУ, вучэбная праграма ўключала факультатыў па адной са славянскіх моў. Хоць лягчэй за ўсё мне было пайсці на польскую, — родам я з Кобрыншчыны, што на памежжы з Польшчай, і з дзяцінства чытаў па-польску, — урэшце ўсё ж аддаў перавагу тады зусім новай для мяне сербскай. У той час, будучы студэнтам, пачаў падпрацоўваць як гідперакладчык у Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спадарожнік». І тыя сяброўскія адносіны з югаслаўскімі турыстамі майго пакалення давалі ўсе магчымасці для добрага засваення самай што ні ёсць жывой мовы і славеснасці ва ўсіх родах і відах. Асабліва анекдотаў і застольных песень. Дарэчы, цяпер нярэдка мае сербскія калегі здзіўляюцца, што я памятаю сербскіх песень (і народных, і «абнароджаных») больш, чым многія з іх.

**— Што значыць для вас нядаўна атрыманая прэмія?**

— Статус гэтай узнагароды адметны: ёю адзначаюцца тыя, чый унёсак у гуманітарную і культурную сферы заўважаны не толькі ў межах сваёй краіны, а мае міжнароднае значэнне. Гэта прэмія ў поўным сэнсе міжнародная. Сярод яе лаўрэатаў — Патрыярх Сербскі Павел і Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II, філосафы Даісаку Ікеда ды Іржы Дынстбір, пісьменнікі Любамір Сімавіч і Петар Хандке, мастакі Ольга Іваніцкі і Саша Джафры, кінарэжысёры Эмір Кустурыца і Мікіта Міхалкоў… Дарэчы, Фонд братоў Карыч выконвае і мецэнацкую ролю ў галіне культуры. А для мяне вельмі істотна, што ён цвёрда трымаецца традыцыйных каштоўнасцей як у грамадскіх адносінах, так і ў культуры, мастацтве.

Адпаведна, гэта радасць і гонар, што мая сціплая праца таксама заўважана. Больш як 40 гадоў я — па волі Божай і ў меру дадзеных мне сіл — стараюся ўмацоўваць сваяцкія повязі, узаемаразуменне паміж беларусамі і сербамі. Нярэдка, жартуючы, кажу, што для мяне важнай з'яўляецца «беласербскасць»… А маю на ўвазе сапраўды братэрскія духоўна-культурныя кантакты.

Істотна, што праз мяне ў шэрагу лаўрэатаў прэміі прадстаўлена мая дарагая краіна — Беларусь. А, між іншым, адзін з заснавальнікаў фонду, які прысудзіў прэмію — Драгамір Карыч, — з'яўляецца Ганаровым консулам Беларусі ў Сербіі.

**— А ў чым ваш асабісты ўнёсак у беларуска-сербскае творчае супрацоўніцтва?**

— Самому ацэньваць гэта няёмка. Можа скласціся ўражанне, што хвалюся. Аднак дазволю сабе прывесці некаторыя лічбы: на цяперашні момант маю 118 выдадзеных кніг, і тры чвэрці з іх непасрэдна звязаны з сербістыкай. Гэта даследаванні, хрэстаматыі і дапаможнікі для студэнтаў, анталогіі, пераклады… Апошніх — найбольш. Усяго апублікаваў каля 1200 мастацкіх перакладаў, у тым ліку звыш 60 кніжных выданняў. У свой час распачаў і вёў (як укладальнік і перакладчык) кніжную серыю «Сербскае багаслоўе ХХ стагоддзя», у якой ужо выйшла больш за 40 кніг.

Цешыць, што змог падрыхтаваць і здзейсніць у Сербіі тры анталагічныя выданні — дзве «Анталогіі беларускай паэзіі» (1993, 2012) і «Анталогію лірыкі ўсходніх славян» (2000). Асаблівае значэнне для мяне самога мае анталогія сучаснай беларускай паэзіі «З-пад буслінага крыла», гэтым летам выдадзеная ў Чарнагорыі. У ёй, дарэчы, каля 80 прац'ант — мае пераклады на сербска-харвацкую мову. Гэта, павінен сказаць, неверагодна цяжкая праца. Да таго ж, няўдзячная зусім. Не настроены скардзіцца, але мушу адзначыць, што такія справы ў прынцыпе ніхто належным чынам не ацэньвае.

**— Якія існуюць магчымасці для пашырэння беларуска-сербскай літаратурнай прасторы?**

— Гэтых магчымасцей вельмі многа! Трэба толькі рыхтаваць перспектыўныя кадры, якія б у далейшым маглі спрыяць развіццю нашых сувязей. І такой падрыхтоўкай я пакуль яшчэ магу займацца на родным філфаку БДУ.

**— Што сёння ў вашых творчых планах?**

— На сёлета запланаваны і, спадзяюся, да канца года выйдуць, яшчэ дзве новыя кнігі: у Бялградзе — перакладзенае мною ў суаўтарстве з сынамі на рускую мову даследаванне сербскіх гісторыкаў «Сербія ў Вялікай вайне 1914 — 1918 гг.», а ў Мінску — зборнік «Беларусы пра Сербію/Югаславію» (на беларускай і рускай мовах).

**Яна ЯВІЧ**

# Восень па-японску

**У гэтым годзе Пасольства Японіі ў Рэспубліцы Беларусь праводзіць другі фестываль японскай культуры «Японская восень у Беларусі-2014». Пра развіццё беларуска-японскіх стасункаў у рэчышчы адукацыі і культуры распавядае Пасол Японіі ў Рэспубліцы Беларусь Сігэхіра Міморы.**



**— Спадар Міморы, як ідзе супрацоўніцтва ў галіне адукацыі?**

— Рэалізуюцца розныя стыпендыяльныя праграмы, што фінансуюцца Міністэрствам адукацыі, культуры, спорту, навукі і тэхналогіі Японіі. Наша Пасольства праводзіць адбор кандыдатаў, пісьмовыя экзамены і гутаркі, а рашэнне аб прадастаўленні стыпендыі прымаецца Урадам Японіі. Сюды ўключаны такія праграмы, як «Стажордаследчык» (для жадаючых праводзіць навуковыя даследаванні ў японскім універсітэце), «Студэнт» (для студэнтаў, якія хочуць прайсці поўны 5-гадовы курс навучання ў японскай ВНУ), «Японская мова і японская культура» (для студэнтаў, якія вывучаюць японскую мову) і іншыя. Усяго за 20 гадоў з моманту адкрыцця Пасольства Японіі ў Беларусі мы накіравалі на вучобу каля 80 чалавек.

**— Давайце больш падрабязна спынімся на праграме фестывалю «Японская восень у Беларусі-2014».**

— З верасня па лістапад наша Пасольства зноў праводзіць фестываль «Японская восень у Беларусі». Калі ўлічваць мерапрыемствы, якія ладзяцца рознымі арганізацыямі пры падтрымцы Пасольства Японіі, то фэст аб'ядноўвае больш як 15 культурных мерапрыемстваў. Сярод іх — паказальныя выступленні і майстар-класы па японскіх баявых мастацтвах, дэманстрацыі розных відаў традыцыйнага японскага мастацтва, фестываль японскага касплея, традыцыйная японская музыка, выстаўкі ды многае іншае. Змест праграмы вельмі разнастайны. Летась да нас прыязджала з Японіі майстар чайнай цырымоніі спадарыня Юка Кацура. Сёлета яна зноў наведае Беларусь і пакажа беларусам традыцыйную японскую чайную цырымонію. Плануецца візіт у вашу краіну і японскага музыканта-флейтыста, які іграе на традыцыйнай японскай бамбукавай флейце «сякухаці». Лічу, што сёлетні фестываль задаволіць самыя розныя інтарэсы.

**— Як ацэньваеце паспяховасць леташняга праекта?**

— Фестываль ужо паспеў атрымаць вельмі станоўчыя водгукі. Па нашых падліках, пра мерапрыемствы «Японскай восені» згадвалася ў розных сродках масавай інфармацыі і інтэрнэт-крыніцах больш як 100 разоў. Акрамя таго, на 12 мерапрыемствах леташняга фестывалю пабывала больш як 10 тысяч чалавек. У цэлым, на мой погляд, гэты праект вельмі паспяховы.

**— У Японіі адкрыта выстаўка, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Іосіфа Гашкевіча — ураджэнца Беларусі, навукоўца-ўсходазнаўца, першага расійскага консула ў Японіі і аўтара першага ў свеце японска-рускага слоўніка. У якіх яшчэ мерапрыемствах, прысвечаных выдатнаму дыпламату, удзельнічала Пасольства Японіі?**

— Спонсарам трох мерапрыемстваў, прымеркаваных да 200-годдзя Іосіфа Гашкевіча, стала кампанія *Japan Tobacco International* (JTI). Першае з іх — міжнародная навуковая канферэнцыя, у якой узяла ўдзел спадарыня Юка Курата з Японіі, выкладчык Філіяла Далёкаўсходняга федэральнага універсітэта ў горадзе Хакадатэ. Другое мерапрыемства — міжнародная перасоўная выстаўка Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, якая пабывала не толькі ў Мінску, але і ў Санкт-Пецярбургу, дзе служыў І. Гашкевіч, а таксама ў Хакадатэ, дзе Гашкевіч быў расійскім консулам. Акрамя таго, выстаўка праходзіла і ў штабкватэры ЮНЕСКА ў Парыжы, паколькі 200-годдзе Гашкевіча было ўключана ў спіс юбілейных дат ЮНЕСКА на 2014 — 2015 гады. Трэцяе — паездка беларускіх студэнтаў-японазнаўцаў у Хакадатэ, прымеркаваная да адкрыцця перасоўнай выстаўкі ды іншых юбілейных мерапрыемстваў.

**— Наколькі вядомы Іосіф Гашкевіч у сучаснай Японіі і якую ролю ён адыграў у развіцці дыпламатыі?**

— На жаль, гэтае імя ў Японіі не вельмі вядомае, але пра выдатныя дасягненні Гашкевіча многія японцы даведаліся дзякуючы юбілейным мерапрыемствам. Напрыклад, пра тое, што ён удзельнічаў у падпісанні японска-рускай дамовы аб міры і дружбе, якая стала першым дыпламатычным пагадненнем паміж Японіяй і Расіяй, выдаў першы ў свеце поўны японска-рускі слоўнік, а таксама служыў першым расійскім консулам у Хакадатэ. Можна сказаць, што Іосіф Гашкевіч заклаў аснову японска-рускіх адносін.

**— Якія цікавыя культурныя мерапрыемствы плануе Пасольства Японіі на наступны год?**

— Сумесна з Японскім Фондам плануецца паказ на беларускім тэлебачанні шматсерыйнага тэлесерыяла «Гваздзік», які ў Японіі карыстаецца вялікай папулярнасцю. Гэта аповед пра дызайнера-піянера ў свеце японскай моды спадарыню Касіна, маці трох дачок, якія таксама сталі сусветна вядомымі дызайнерамі. Серыял заснаваны на рэальных падзеях, якія разгортваліся ў Японіі ў тыя часы, калі жанчыны былі абмежаваныя ў сваёй дзейнасці, і распавядае, як галоўная гераіня здолела пабудаваць сваё жыццё і дамагчыся поспеху ў сферы моды і дызайну адзення. Гэта вельмі цікавы тэлесерыял, у якім ёсць і слёзы, і смех, і любоў блізкіх. Паказ пройдзе на адным з тэлеканалаў Белтэлерадыёкампаніі ў першым паўгоддзі 2015-га. Акрамя таго, на БТ плануецца паказ «жывога» інтэрв'ю са спадарыняй Касіна Дзюнка, адной з трох дачок галоўнай гераіні серыяла.

**— Спадар Міморы, а чым цікавая для японцаў Беларусь? Што распавядаеце дома пра нашу краіну сябрам і калегам?**

— Перш за ўсё здзіўляе, што ў Беларусі можна ўбачыць прыгожую, роўную лінію гарызонту... Тут шмат густых лясоў, маляўнічых лугоў, блакітных рэк і азёр. Мне вельмі падабаецца беларуская прырода, цікавая і незвычайная для жыхароў Японіі. Яшчэ Беларусь унікальная тым, што ў розныя гістарычныя перыяды ўваходзіла ў склад розных дзяржаў. Гэта, безумоўна, паўплывала на беларускую культуру, якая ўвабрала ў сябе некаторыя культурныя асаблівасці суседніх краін — Польшчы, Літвы, Расіі. Беларусы мяккія і спагадлівыя, шчырыя і адкрытыя. І мне гэта вельмі падабаецца. Прыемна здзіўляе і тое, што насельніцтва Беларусі высокаадукаванае. Гэта адзін з вашых найважнейшых нацыянальных здабыткаў. Шкада толькі, што Беларусь і Японія не так шмат ведаюць адно пра аднаго. Для больш блізкага знаёмства неабходныя нашы агульныя намаганні, якія павінны мець доўгатэрміновы і пастаянны характар.

**Марына ДРАГІНА**

# Мінск — Тржэбіч

**Вернісаж выстаўкі мастака з Чэхіі Барыса Кюленена прайшоў у сталічным «Кніжным салоне». Імпрэза стала сумесным праектам «салона» і чэшскай галерэі GalerieKARAS. Адметна, што работы гэтага мастака ў Мінску былі прадстаўленыя ўпершыню, а ініцыятарам арганізацыі экспазіцыі стала гаспадыня кнігарні Ала Зміёва.**

Барыс Кюленен нарадзіўся ў Расіі, вучыўся ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце, потым працаваў рэстаўратарам у Эрмітажы, а з 1980 года жыве ў чэшскім горадзе Тржэбіч. Падчас імпрэзы першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Аляксандр Дранец заўважыў:

— Барыс Кюленен — мастак разнапланавы, рознабаковы, ён працуе ў жанры жывапісу, графікі, скульптуры, ілюстрацыі, ён мастак-рэстаўратар. Спадзяюся, мы яшчэ не раз будзем мець шчасце бачыць творы спадара Барыса, можа, і яго самога ў гасцях у Мінску.

Куратар выстаўкі і галерэі GalerieKARAS Аксана Аракчэева распавяла рамантычную гісторыю з жыцця мастака Кюленена. Неяк у Піцер завітала з экскурсіяй мастачка з Чэхіі Бажэна Двожакава. Яна вельмі хацела трапіць у Эрмітаж, але ў дзень прыезду ў музеі быў выхадны. Ды здарыўся амаль цуд: на працу ішоў Барыс і запрасіў госцю на экскурсію па пустых залах. Успыхнула каханне. У Бажэны на той час адносіны з мужам ужо не ладзіліся, таму яны хутка развяліся. Барыс жа заўсёды марыў пра большую творчую свабоду, таму з радасцю прыняў запрашэнне пераехаць у Тржэбіч. Пасля пераадолення бюракратычных перашкод маладыя змаглі распісацца і пераехаць у тагачасную Чэхаславакію. Кюленен і сёння жыве ў Тржэбічы, ва ўласным доме, на першым паверсе якога размяшчаецца галерэя.

Падчас вечарыны ў «Кніжным салоне» пражскія старонкі свайго жыцця згадваў паэт, краязнавец Сяргей Панізнік. Прагучалі прывітанні ад Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Чэхіі ў Беларусі спадара Мілана Экерта, спадара Іржы Караса, які ў 2009 — 2012 гадах быў паслом Чэхіі ў Беларусі, а сёння апякуецца беларускай культурай на радзіме; старшыні таварыства «Беларусь — Чэхія» Валерыя Гедройца.

Прадстаўленне чэшска-беларускага выставачнага праекта стала добрай нагодай для згадкі новага выдання, што рыхтуецца ў Выдавецкім доме «Звязда». Гэта зборнік 72 перакладаў на 64 мовы ўрыўка з прадмовы Скарыны да кнігі «Юдзіф». Макет гэтай адметнай кнігі прадставіў прысутным дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




*На паліцы*

# Выйсце ёсць?

Здавалася б, знаёмы сюжэт для дэтэктыўнага фільма ці для серыяла пра адметнасці працы юрыстаў. Галоўнага героя абвінавачваюць у трох забойствах. Ён сам (да і чытач) дакладна ведае, што не зрабіў нікому зла. Аднак яму не вераць калегі, яму здраджваюць сябры і каханая, жыццё фактычна пераварочваецца з ног на галаву…

У дадзеным становішчы лёс падсуднага залежаў бы ад лаяльнасці суддзі і вынаходлівасці адвакатаў, але дакладна вядома адно: наш герой апынуўся б за кратамі. Пытанне толькі ў даўжыні тэрміну зняволення. Што рабіць?

Вядомы аўтар дэтэктываў, лаўрэат многіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і прэмій Мікалай Чаргінец у сваёй новай кнізе «Пабег», што пабачыла свет у выдавецтве «Харвест», прапануе герою іншае выйсце. Ён сам змагаецца за сваю свабоду, знаходзіць новае каханне і сяброўства.

Вострасюжэтны раман не адпускае ўвагу чытача, бо ён не толькі распавядае пра лёс несправядліва асуджанага, але і мае паралелі з рэчаіснасцю, яе філасофскім асэнсаваннем. Нездарма ж дэвізам кнігі стала выказванне «Здзейсніць пабег — не значыць уцячы…».

**Галіна МІХНЕВІЧ**

# Вяртанне ў мінуўшчыну

**Новая кніга Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч «Язычніцтва старажытных беларусаў» была прадстаўлена публіцы ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 2. Грунтоўнае, багата ілюстраванае выданне мае задачу паказаць карані беларускіх легенд і паданняў, аднавіць светапогляд нашых продкаў зыходзячы са старажытных вераванняў.**

— Раней я працавала археолагам. І мне асабліва цікава было даследаваць курганы, — распавяла Людміла Дучыц, — за ўвесь час я правяла раскопкі каля тысячы курганоў. Гэта багатая крыніца звестак па вывучэнні не толькі этнагенезу беларусаў, але і адметнасцей духоўнага свету нашых продкаў. Духоўным аспектам жыцця нашых продкаў і рэшткамі язычніцтва ў вераваннях я зацікавілася ў сярэдзіне 1980-х, калі мы праводзілі раскопкі курганоў на беразе Заходняй Дзвіны — каля вёсак Чамяры і Чурылава Мёрскага раёна.

У выніку даследавання стала вядома, што курганы гэтыя датаваліся XVII — XVIII стагоддзямі. Аднак навукоўцы засумняваліся: як такое магчыма? Як прынята лічыць, курганны тып пахавання знікае разам з распаўсюджваннем хрысціянства на нашых землях. Але аказалася, што ў часы сярэднявечча на законным узроўні была прызнаная свабода веравызнання. Менавіта тады пачалі адраджацца язычніцкія вераванні, і насыпанне курганоў стала своеасаблівым вяртаннем да язычніцтва.

Праца па вывучэнні вераванняў нашых продкаў працягвалася. Так, у канцы 1980-х гадоў Людміла Дучыц разам з даследчыцай беларускай міфалогіі Ірынай Клімковіч пачалі ладзіць вандроўкі па Беларусі, фіксаваць адметныя элементы язычніцтва, якія захаваліся да нашага часу. Аўтары кнігі распавялі, што ў падарожжах па краіне з мэтай пошуку сакральных мясцін, зафіксаваных яшчэ ў 1970-х, яны паралельна знаходзяць зусім новыя камяні, крыніцы.

Поспех папярэдняй кнігі даследчыц «Сакральная геаграфія Беларусі» (Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011) паказаў: звесткі пра старажытныя вераванні нашых продкаў запатрабаваныя сярод беларусаў. Таму спадзяёмся, што і новае выданне «Язычніцтва старажытных беларусаў» хутка знойдзе свайго чытача.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Ключ да біяграфіі

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася прэзентацыя кнігі Людмілы Хмяльніцкай «Сігізмунд Юркоўскі — фатограф з Віцебска» (Мінск: Чатыры чвэрці, 2014).**




— Сігізмунд Юркоўскі — віцебскі фатограф-вынаходнік, член фатаграфічнага аддзела рускага тэхнічнага таварыства, быў вучнем знакамітага пецярбургскага майстра фатаграфіі Андрэ Дэньера, — распавяла аўтар кнігі, дырэктар Музея Марка Шагала ў Віцебску Людміла Хмяльніцкая. — У 1866 годзе пасяліўся ў Віцебску і адкрыў фотаатэлье на Замкавай вуліцы, якое больш як 30 гадоў было самым папулярным у горадзе. Нарадзіўся на Украіне — гэта распаўсюджаная інфармацыя. Дзе дакладна — невядома. Але вядома, што большую частку свайго жыцця ён правёў у Беларусі.

Адметна, што Сігізмунд Антонавіч быў не толькі выдатным фатографам, які пакінуў немалую спадчыну, але і таленавітым вынаходнікам. Менавіта ён прыдумаў шторна-шчылінны затвор фотаапарата — прынцып здымкі, які часткова выкарыстоўваецца і сёння. Грунтоўных артыкулаў, прысвечаных Юркоўскаму, фактычна не было да выхаду ў свет кнігі Людмілы Хмяльніцкай. Публікацыямі пра фатографа першымі заняліся віцебскія краязнаўцы, у прыватнасці Аркадзь Падліпскі, які яшчэ ў 1960-х гадах пачаў пісаць пра Юркоўскага. Але звестак, сабраных Падліпскім, хапала толькі на палову старонкі.

— Аднойчы, працуючы ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, я абсалютна выпадкова знайшла атэстат, выдадзены калежскаму сакратару Сігізмунду Антонавічу Юркоўскаму, з Магілёўскага губернскага акцызнага ўпраўлення 25 ліпеня 1866 года. Гэты ўнікальны дакумент быў паслужным спісам Юркоўскага, ён стаў ключом, што даваў магчымасць адкрыць яго біяграфію, — заўважыла Людміла Хмяльніцкая. — Усведамляючы ўсю значнасць такога дакумента, я ведала, што проста павінна пачаць працу над біяграфіяй фатографа.

У выніку даследавання Людмілы Хмяльніцкай было знойдзена 80 фотаздымкаў Юркоўскага. Можам бачыць іх рэпрадукцыю. У кнізе таксама ёсць кароткая біяграфія фатографа і шэраг яго навуковых прац. Праца аўтара кнігі дае падставы сцвярджаць, нягледзячы на недакладнасці ў біяграфіі Сігізмунда Юркоўскага, што вялікі фатограф, несумненна, быў і выбітным беларусам.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Легенды і музыка

**Музычны каляндар восені паяднаў дзве прыгожыя даты. 15 верасня споўнілася 80 гадоў Іне Зубрыч — найстарэйшаму лектару-музыказнаўцу Беларускай дзяржаўнай філармоніі. 15 кастрычніка сустрэў свае 90 Міхась Солапаў — заслужаны дзеяч мастацтваў і заслужаны дзеяч культуры Беларусі, прафесар акадэміі музыкі. Гэтыя таленавітыя адухоўленыя людзі носяць сонца ў сваіх сэрцах. Бог наканаваў ім высокі чын самаадданага служэння Мастацтву і Асветніцтву, падараваўшы актыўнае творчае даўгалецце. Побач з намі — жывыя легенды!**



## ІНА ЗУБРЫЧ: МАГІЯ СЛОВА

Тыдзень таму, 10 кастрычніка, у сталічнай філармоніі ладзілася юбілейная вечарына Іны Зубрыч. Афіша з уражлівым пералікам удзельнікаў — слынных калектываў, прызнаных майстроў, выдатных маладых артыстаў — настройвала на свята. І спраўдзілася яно напоўніцу: тры гадзіны без антракту разгортвалася поліфанічная імпрэза! Віншавальныя сюрпрызы; выступленні выканаўцаў, удзячных Іне Ігараўне за супрацоўніцтва; шчодрая на авацыі публіка. Трапна заўважыла рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Кацярына Дулава: калі на цэнтральнай канцэртнай сцэне краіны ў амаль цалкам запоўненай Вялікай зале ўшаноўваюць музыказнаўцу, гэта дарагога каштуе. Дык хіба мае значэнне, што ў сваёй альма-матар Іна Ігараўна выкладала толькі пару-тройку гадоў, ды і надта даўно? Яна заслужыла найвышэйшую ўзнагароду акадэміі — нагрудны знак, якім адзначаецца выдатная дзейнасць музыкантаў-педагогаў!

У савецкі час была адзначана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Чатыры гады таму атрымала ордэн Францыска Скарыны. Што ж, Богам вызначаную місію — несці ў свет слова пра музыку — Іна Зубрыч здзяйсняе на ўзроўні, кангеніяльным высакароднай мэце сваёй прафесіі.

«Стань музыкою, слово...» — радок М. Забалоцкага даў назву юбілейнай вечарыне, якую яе герaіня вяла ў партнёрстве з малодшай калегай Наталляй Ганул. Нібы воляю магічнай замовы, іх натхнёную гаворку і прамовы гасцей падхоплівала гучанне самай рознай музыкі. Пранікнёную мелодыю вядомай песні на раялі сыграў яе аўтар, старшыня Беларускага саюза кампазітараў Ігар Лучанок. Звонкагалосыя перазовы жаночай вакальнай групы Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча. Дарэчы, лідар калектыву, старшыня праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Міхась Дрынеўскі разам з сябрамі па суполцы — сваім намеснікам, віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага саюза музычных дзеячаў Наталляй Вітчанка, кіраўніком сталічнай арганізацыі БСМД Віктарам Войцікам, дырэктарам некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра «Класіка» Валерыем Уколавым (рэжысёрам канцэрта) — цёпла павіншавалі прадстаўніцу саюза. Ёй уручылі медаль Міжнароднага СМД імя І. Архіпавай ды абраз святой прападобнай Еўфрасінні, прывезены са старажытнага манастыра ў Полацку.

Гучаў арган і цымбальна-фартэпіяннае трыа «Кансананс». На сцэну выходзілі карыфеі айчыннага опернага мастацтва і дэбютанты-струннікі — 26-ы склад Канцэртнага калектыву пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна (Рэспубліканская гімназія-каледж пры БДАМ). Фантастычна ігралі «піяніст-аркестр» Ігар Алоўнікаў. Шчыравалі віртуозы домры і мандаліны Наталля Корсак ды Мікалай Марэцкі ў кампаніі піяністкі Марыны Рамейка. Радавалі музычныя дарункі Святочнага хору Свята-Елісавецінскага манастыра (рэгент — манахіня Іўліянія). І кранаў душу ўзнёўлены са старой кружэлкі барытон Дзмітрыя Зубрыча — мужа, чыё жыццё абарвалася ва ўзросце 46 гадоў і перад памяццю якога Іна Ігараўна паклялася выгадаваць іх двух сыноў годнымі людзьмі.

Артыст-купалавец Віктар Манаеў чытаў санеты У. Шэкспіра. Яго калегі Ганна Хітрык ды Аляксандр Казела прадставілі фрагменты са спектакляў Купалаўскага тэатра, музыку да якіх напісаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Андрэй Зубрыч — малодшы сын Іны Ігараўны. А чарада фотаздымкаў на сцэнічным экране раз-пораз нагадвала эпізоды яе навучання, творчага шляху, аблічы сяброў і родных...

Можна гаварыць пра майстэрства, з якім яна пракладае нябачны масток паміж Музыкай, выканаўцамі ды публікай. Пра ўменне падрыхтаваць аўдыторыю да ўспрымання найскладанейшага твора. Пра інтанацыйна багатую тэмбравую палітру яе голасу, выразнасць жэсту і слова, звернутых у залу. Пераканальнасць, даходлівасць і дасціпнасць, шчырую эмацыянальнасць і артыстызм яе каментарыяў. Але ніхто не разумее ўнікальнасць гэтага таленту лепш за музыкантаў, з якімі ажыццёўлена безліч тэматычных праграм, «перасоўных» лекторыяў, канцэртаў-навел, фестывальных праектаў, прэм'ер (у тым ліку з харэаграфічным ансамблем «Харошкі»), перадач у эфіры. Іна Ігараўна з такім захапленнем прадстаўляе публіцы кожнага выканаўцу, з такой любоўю распавядае пра кожны твор, што поспех праграмы забяспечаны! І нават незнаёмы артыст робіцца ўлюбёнцам публікі яшчэ да таго, як загучыць першая нота...

## МІХАСЬ СОЛАПАЎ: МУДРАСЦЬ НАСТАЎНІКА



Працоўны стаж Міхася Рыгоравіча — 80 гадоў. Так-так, адкіньце сумнеў. І гэта не адзіны неверагодны факт у хроніках яго жыцця. Пра свой лёс, а правільней сказаць, — пра музычнае мастацтва ў сваім лёсе — маэстра Солапаў падрыхтаваў кнігу, якую дапытлівы чытач з часам пабачыць, разгорне і...

Зрэшты, я не ведаю, што дакладна будзе пад вокладкаю таго фаліянта, якую частку багатай біяграфіі адлюструюць яго старонкі. Ці будзе там адметная музычная публіцыстыка Міхася Рыгоравіча, знаёмая чытачам яго рэцэнзій, аналітычных артыкулаў, агляда́ў, творчых партрэтаў, многія з якіх публікаваліся і ў «ЛіМе»? Ці будуць згадкі пра дзяцінства ў расійскай глыбінцы? Пра гады вайны, доўгі шлях на фронт і сустрэчу з Беларуссю, што стала для яго другой радзімай? А развагі пра «святую да музыкі любоў», вялікую місію мастацтва і стасункі майстра-настаўніка з вучнямі?

Затое магу сцвярджаць, што ўнікальная памяць гэтага рознабаковага музыканта, педагога і асветніка, чалавека ўразлівага і назіральнага, — неацэнны скарб. Размова з Міхасём Солапавым захапляе як вялікі эпічны раман. Асабліва калі час не праспешвае і гаварыць можна гадзінамі...

Міхась Рыгоравіч падрабязна распавядае пра сям'ю, дзе яго ад самага нараджэння атулялa музыка. Маці мела дзівосны голас, спявала ў царкоўным хоры, брала яго, немаўлятку, на перадсвяточныя спеўкі, дзе пад гучанне харавых малітваў ён суцішваўся і нярэдка засынаў. Дзядуля, умелец-самародак і адмысловца па рамонце механізмаў, змайстраваў для ўжо трохгадовага Міхася пяціклапанавы гармонік-«чарапашку», які хлопчык асвоіў хутка. Таму гадоў у шэсць іграў нароўні з дарослымі, падбіраючы па слыху папулярныя мелодыі. Нават падтрымліваў хатні ансамбль, далучаўся да дзеда, бацькі ды маці. Бабуля, самы ўплывовы і мудры чалавек у сямейным выхаванні, скіроўвала ўнука на духоўна-маральныя каштоўнасці хрысціянства. Музыку паслухаць любіла, ды падчас посту іграць забараняла, з-за чаго маленькі гарманіст пакутаваў больш, чым ад абмежаванняў у ежы.

А вось і крыніца працоўнага стажу: 10-гадовага Міхася падчас летніх вакацый пачалі далучаць да сур'ёзнай справы. Запрашалі пайграць на танцах, на вяселлях, суправаджаць у якасці тапёра сеансы нямога кіно. Выдатная практыка. І заробак быў неблагі. Пры нагодзе юны музыкант адкрываў для сябе і саматугам асвойваў новыя інструменты: мандаліну, баян, балалайку, фартэпіяна... Потым — Курскае музвучылішча, дзе была магчымасць апроч асноўных заняткаў наведваць аркестры: баянны, струннасмыкавы, народных інструментаў, сімфанічны.

Гады ваенныя: тылавая вучоба і невытлумачальна доўгае чаканне мабілізацыі. Даведаўся праз добрых людзей: на фронт не бралі, бо пры росце 175 см Міхась важыў 44-45 кг. Дзякуючы тым жа людзям яго перавялі на санаторны рэжым з узмоцненым харчаваннем. І неўзабаве Солапаў, які скончыў курсы танкістаў, трапіў на перадавую. Сведкі яго франтавога подзвігу — тры ордэны Айчыннай вайны, медалі «За Перамогу над Германіяй 1941 — 1945 гг.», «За вызваленне Варшавы», «За ўзяцце Берліна»... Сёння Міхась Солапаў і ў калектыве БДАМ, і ў саюзе музычных дзеячаў — адзіны ветэран тых незабыўных падзей гісторыі.

У пасляваенным Брэсце малады і ўжо сямейны музыкант скончыў профільнае вучылішча, затым атрымаў вышэйшую адукацыю па дзвюх спецыяльнасцях («Баян» і «Харавое дырыжыраванне») на завочным аддзяленні маскоўскай «Гнесінкі». Вучобу сумяшчаў з выкладчыцкай дзейнасцю, працаваў як дырыжор з брэсцкімі харавымі калектывамі, аркестрамі... У славутым калгасе на Камянеччыне стварыў узорную музычную школу, тры гады быў яе дырэктарам, арганізаваў і вёў асветніцкі ўніверсітэт культуры...

«Вучуся ўсё жыццё, штодня. І працаваць люблю, — кажа М. Солапаў. — Свае ўчынкі заўжды стараўся сувымяраць з маральнымі асновамі, якія закладзены ўва мне праз бабуліна выхаванне. З маленства прызвычаіўся прачынацца і засынаць з малітвай. Ніколі не курыў, не ўжываў брыдкія словы і не піў, нават свае «франтавыя сто грамаў» аддаваў таварышам. Я ніколі не мог размаўляць з чалавекам жорстка, ставіцца да калег як да падначаленых, пагардліва крытыкаваць іх працу, прыніжаць самага адсталага ці занадта ганарыстага студэнта. Выхоўваць — не значыць камандаваць. Гэта значыць ствараць умовы для рознабаковага развіцця асобы. І трэба не прымушаць моладзь да творчасці, а заахвочваць. За доўгае настаўніцкае жыццё ў мяне каля 200 вучняў, сярод іх ёсць музыканты з ганаровымі званнямі, лаўрэаты розных конкурсаў. Аднак для мяне самае важнае — праца, а не ўлік сваіх заслуг».

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

# Замак каралевы Боны

**Нарачанскі край вабіць да сябе ўсіх: ад мастакоў і паэтаў, што шукаюць тут натхнення, да шматлікіх турыстаў, што едуць сюды не толькі з Беларусі. Але Мядзельшчына вядомая яшчэ і старажытнай гісторыяй, якая пакінула на гэтай зямлі багатую спадчыну — ад стаянак людзей каменнага веку да акопаў і бліндажоў дзвюх сусветных войнаў.**



*Выява Мядзельскага замка на карце ВКЛ (XVII ст.).*

Адным з самых цікавых і, мусіць, самым загадкавым з помнікаў мінуўшчыны Нарачанскага краю з'яўляецца Мядзельскі замак, размешчаны на паўвыспе возера Мястра ў паўднёвай частцы сучаснага Мядзела, які здаўна вядомы ў мясцовага насельніцтва як «замак каралевы Боны». Каралева Бона — гэта не выдуманая ўладарка старажытнага замка, а цалкам рэальная гістарычная асоба — Бона Сфорца д'Арагона, дачка міланскага герцага, якая ў 1518 годзе стала жонкай вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Старога. Іх сын, Жыгімонт Аўгуст, быў апошнім уладаром Вялікага Княства і Польскага Каралеўства з роду Ягелонаў — нашчадкаў Ягайлы.

Але пачаць расповед варта ўсё ж з іншага. Упершыню Мядзельскі замак згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1324 годам. Згаданы ён у лісце вялікага князя Гедыміна да рыжскага біскупа. Уладар Вялікага Княства скардзіцца біскупу на агрэсіўныя дзеянні крыжакоў, якія падчас нападу нанеслі значную шкоду яго землям, забілі шмат людзей, а іншых вывелі ў палон, але не здолелі ўзяць добра ўмацаваны замак Мядзела.

Сёння цяжка сказаць, дзе дакладна знаходзіўся гэты добра ўмацаваны замак, згаданы ў лісце Гедыміна. Крыху больш, як за сем кіламетраў на паўночны захад ад гэтай замкавай паўвыспы пасярод возера Мядзел, ці Мядзельскае, ёсць выспа, назва якой — Замак. У X—XIII, а магчыма, і ў пачатку XIV стагоддзя, тут мелася добра ўмацаванае магутнымі валамі гарадзішча, вакол якога раскінулася вялікае адкрытае паселішча. Верагодна, тут размяшчалася адна з парубежных крэпасцей Полацкага княства, якая, напэўна, атрымала сваю назву ад назвы возера. Недзе ў канцы XIII ці пачатку XIV стагоддзя крэпасць занепадае, а яе назва замацоўваецца за паселішчам на беразе Мястры. Але калі адбыліся гэтыя падзеі, сказаць дакладна мы пакуль не можам. У любым выпадку, у XV стагоддзі Мядзельскі замак размяшчаўся на паўвыспе возера Мястра.

Навукоўцы звярнулі ўвагу на рэшткі Мядзельскага замка яшчэ ў XIX стагоддзі, але яго мэтанакіраванае вывучэнне пачалося толькі пасля Другой сусветнай вайны. Асноўнымі даследчыкамі сталі знакамітыя беларускія археолагі Міхась Чарняўскі і Міхась Ткачоў, якія ў 1970 і 1981 гадах праводзілі яго раскопкі. Матэрыялы даследаванняў сталі асновай нашых ведаў пра Мядзельскі замак, бо пісьмовыя звесткі надзвычай бедныя. Пасля вялікага перапынку даследаванні замка былі адноўлены экспедыцыяй пад кіраўніцтвам аўтара гэтых радкоў у 2013 — 2014 гадах. Матэрыялы раскопак значна дапаўняюць і ўдакладняюць вынікі працы Міхася Ткачова.

Археалагічныя даследаванні даюць падставы меркаваць, што ў XV стагоддзі ў паўночна-ўсходняй частцы замкавага пагорка была пабудаваная магутная мураваная вежа. Складзеная з цэглы і валуноў, яна мела дыяметр 17,5 метра. Паводле гэтай прыкметы, вежа Мядзельскага замка падобная да знакамітай Камянецкай вежы. Адпаведна, можна лічыць, што яе вышыня дасягала 30 метраў. З такой вышыні замкавая залога магла кантраляваць не толькі берагі возера Мястра, але і ўсё навакольнае паазер'е.

Росквіту Мядзельскі замак, верагодна, дасягнуў у першай палове XVI стагоддзя, калі да вежы з захаду быў прыбудаваны мураваны з цэглы будынак шырынёй 10 метраў, даўжыня ж застаецца невядомай. Паводле меркавання Міхася Ткачова, ён выконваў функцыі палаца. Верагодна, у гэты ж час замкавы пагорак быў умацаваны па перыметры паўкруглымі бастэямі, прызначанымі для размяшчэння гармат.

Падчас археалагічных раскопак на замкавым пагорку была сабраная багатая калекцыя знаходак: манеты, прадметы побыту, упрыгажэнні, кухонны і сталовы посуд. Але найбольшую цікавасць уяўляюць шматлікія фрагменты кафлі, з якой рабіліся печы для ацяплення вялікіх памяшканняў. Разнастайнасць асартыменту кафлі Мядзельскага замка ўражвае. Тут знойдзена адносна ранняя гаршковая кафля, а таксама кафля з дыванковым і раслінным арнаментам, з выявамі міфічных жывёл, людзей і святых. Асобныя ўзоры мядзельскай кафлі не саступаюць па прыгажосці і якасці нават кафлі сталічных віленскіх замкаў.

У XVII стагоддзі вакол замкавага пагорка быў узведзены дадатковы ніжні пояс абароны — земляны вал з бастыёнамі і ровам. Аднак магутныя ўмацаванні далёка не заўсёды маглі ўратаваць замак і яго абаронцаў ад варожых нападаў. На думку Міхася Ткачова, Мядзельскі замак быў двойчы спалены ворагамі. Першы раз гэта магло адбыцца ў пачатку XVI стагоддзя, магчыма, у выніку нападу маскоўскага войска ў 1519 годзе. Другі раз замак быў спалены ў XVII стагоддзі. Верагодна, у выніку гэтага пажару вежа і палац былі зруйнаваныя і больш ужо не аднаўляліся, а ўмацаванні замкавага пагорка надалей складаліся толькі з простага драўлянага вастракола. Канчаткова Мядзельскі замак быў разбураны падчас Паўночнай вайны 1700 — 1721 гадоў.

На думку некаторых гісторыкаў, прынамсі, з канца 1510-х гадоў, Мядзельскі замак належаў Радзівілам. Так, на Венскім кангрэсе 1518 года Мікалай Мікалаевіч Радзівіл дамогся ад імператара Максіміліяна тытула князя Свяшчэннай Рымскай імперыі на Ганязі і Мядзеле. Гэта азначае, што на той момант у Мядзеле ўжо меўся мураваны замак, бо гэта было адной з умоў атрымання такога высокага тытула.

У другой палове 1540-х гадоў Мядзельскі замак па нейкіх прычынах пераходзіць ва ўласнасць гаспадара Вялікага Княства Літоўскага. З гэтага часу ён становіцца адміністратыўным цэнтрам рэгіёна. Тут размяшчаўся «гаспадараскі ўрад», прадстаўлены старастам або яго намеснікамі. Тут жа вяліся кнігі розных заяў мясцовай шляхты, разбіраліся некаторыя судовыя справы.

Уявім сабе, што ў гэты час у Мядзельскім замку спынялася падчас вандровак па сваіх уладаннях і сама каралева Бона. Магчыма, менавіта яна магла прыкласці значныя намаганні для адбудовы і аздаблення замка і зрабіць з яго не толькі ўмацаваную фартэцыю і адміністратыўны цэнтр, але і сапраўдную рукатворную перліну сярод нізкі блакітных азёраў. Таму не дзіва, што яе імя захоўвалася ў памяці мясцовага люду больш як чатыры стагоддзі.

Сёння замкавы пагорак моцна зарос дрэвамі, падмуркі колішняй велічнай вежы амаль не заўважныя пасярод густой травы. Чалавеку, які не ведае, што некалькі стагоддзяў таму тут знаходзілася магутная фартэцыя, спачатку нават цяжка ў гэта паверыць. Але аднаўленне раскопак і цікавасць да праблемы кансервацыі і рэстаўрацыі замка з боку мясцовых улад усё ж даюць падставы спадзявацца, што з цягам часу сітуацыя зменіцца і на паўвыспе Мястры з'явіцца музей пад адкрытым небам, галоўным экспанатам якога будзе адрэстаўрыраваны замак легендарнай каралевы Боны.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Царыца з ліцвінскімі каранямі

**Прыкладна ў сярэдзіне XVII ст. у маёнтку смаленскага шляхціца Сямёна Грушэцкага нарадзілася дачка Агафія. Продкі дзяўчыны паходзілі са старажытнага польскага роду Грушэцкіх герба Любіч.**

Бацька Агафіі — маскоўскі дваранін. Некаторы час кіраваў маёнткамі Вялікага гетмана літоўскага Міхаіла Казіміра Паца. Дзед дзяўчыны таксама быў дваранінам. Расійская лінія роду вядзе пачатак ад Карпа Грушэцкага, які выехаў з Польшчы ў Маскву паміж 1584 і 1598 гадамі на службу да цара Фёдара Іаанавіча. Аднак адкуль ён прыехаў у Расію, невядома. Бліжэйшыя продкі Агафіі доўгі час пражывалі і валодалі маёнткамі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Маладая шляхцянка выхоўвалася па-еўрапейску, больш вольна, чым дзяўчаты пры маскоўскім двары, перавагу аддавала тагачаснай польскай модзе, такім чынам, яе манера апранацца выходзіла за межы маскоўскіх звычаяў. А яшчэ дзяўчына ўмела настойваць на сваім. Пісьменнік А. Красніцкі ў рамане «Царыца-палячка» (1902) апісвае яе як адну з самых прыгожых і адукаваных дзяўчын свайго часу: умела чытаць і пісаць, размаўляла па-польску, разумела латынь і французскую мову, іграла на клавесіне, была знаёмая з жыццём на Захадзе.

4 красавіка 1680 года, у Вербніцу, падчас хроснага ходу, 18-гадовы цар Фёдар Аляксеевіч упершыню ўбачыў прыгажуню Агафію «паміж шматлікім глядзячым народам», калі ішоў за святымі абразамі. Дзяўчына яму вельмі спадабалася: царскаму пасцельнічаму даручана было навесці даведкі. Высветлілася, што разам з маці яна жыве ў Кітай-горадзе ў хаце стрыечнага дзядзькі, думнага двараніна Сямёна Забароўскага. Фёдар загадаў перадаць Забароўскаму, «каб ён тую сваю пляменніцу захоўваў і без указу замуж не выдаваў».

Малады цар закахаўся ў юную прыгажуню, аднак, не жадаючы парушаць старадаўнія звычаі, загадаў склікаць у ліпені 1680 года ўсіх прыгожых дзяўчат з вышэйшага свету для выбару нявесты. Аднак зыход быў наканаваны: цар абраў Агафію.

Адзін з найбліжэйшых сваякоў Фёдара Аляксеевіча, яго дзядзька Іван Міласлаўскі (брат маці цара), які не жадаў дапускаць да прастола нікога, акрамя Міласлаўскіх, пачаў распаўсюджваць пра царскую нявесту ганебныя чуткі, спрабуючы навесці на яе паклёп. Але цар раз'юшыўся, і толькі Агафія выратавала паклёпніка ад няміласці.

Шлюб Фёдара Аляксеевіча з Агафіяй Грушэцкай адбыўся 18 (28) ліпеня 1680 года ва Успенскім саборы Масквы. Аднак вяселле адсвяткавалі сціпла. Настаўнік цара, паэт Сімяон Полацкі, разам са сваім вучнем склалі оды на гэтую «вялікую і радасную для ўсёй зямлі Рускай урачыстасць». А пасля цар адарыў жончыну радню чынамі ды маёнткамі. Яе родныя сёстры былі выдадзены замуж за заможных людзей. Стрыечныя браты атрымалі чыны «жыльцоў», стольнікаў і спальнікаў, а бацька царыцы — чын баярына. Маці Агафіі, баярыні Марыі Грушэцкай (у дзявоцтве Забароўскай), былі падораны вёскі на тэрыторыі сённяшняга Падольскага раёна Маскоўскай вобласці. Грушэцкія і Забароўскія вялікім кланам увайшлі ў эліту сталічнага дваранства.

Пад уплывам царыцы Агафіі Сямёнаўны значна змяніўся і прыдворны побыт. Так, цар Фёдар Аляксеевіч першым з рускіх апрануў польскі кунтуш, што зрабілі ўслед за ім і ўсе прыдворныя, а таксама адмяніў звычай галіць галаву і пачаў насіць доўгія валасы.

Шматлікія прыдворныя, уключаючы і важных пажылых баяр, сталі падстрыгаць бароды і не саромеліся паліць тытунь. Некаторыя апранулі караткаполыя нямецкія строі.

Агафія Грушэцкая прынесла Маскоўскай дзяржаве шмат карысці. Яна «ўгаварыла мужа знішчыць вохабні, пачварныя жаночыя сукенкі… увесці галенне барод і стрыжку валасоў, польскія шаблі і кунтушы і, што яшчэ важней, дапусціць у Маскве закладку польскіх і лацінскіх школ». Ваяры нарэшце перасталі насіць ганебныя жаночыя вохабні, прызначаныя для ўцекачоў з поля бою.

У Маскве, па патрабаванні маладой царыцы, было створана некалькі лацінскіх і польскіх школ. Агафія дазваляла сабе адкрыта з'яўляцца перад людзьмі, часта сядзела і хадзіла побач з царом, чаго дагэтуль не бывала. Рашучасць дазволіла перасягнуць векавыя забароны маскоўскага двара.

Акрамя новаўвядзенняў пры двары, царыца Агафія здзейсніла і пераварот у тагачаснай жаночай прыдворнай модзе. Яна насіла аксамітную «польскую шапачку», якая пакідала валасы адкрытымі.

Упершыню такія шапачкі згадваюцца 19 верасня 1680 года. У палацы ў гэты дзень адзначаліся імяніны царэўны Соф'і Аляксееўны, і для Агафіі Сямёнаўны была пашыта шапка з меху собаля са спадам з вавёрчыных хрыбтоў. На наступны дзень для самых вялікіх модніц царскага церама, маладых царэўнаў Кацярыны і Марыі, таксама былі пашыты «польскія шапачкі» — новы галаўны ўбор царыцы меў поспех на палацавым свяце.

Марыя Аляксееўна апраналася гэтак жа, «па-польску», а Кацярына Аляксееўна і пасля смерці цара Фёдара насіла «шапку і сукенку ў польскім гусце… закінула маскоўскія кафтаны, перастала заплятаць валасы ў адну касу».

У ноч з нядзелі на панядзелак 11 (21) ліпеня 1681 года Агаф'я нарадзіла сына, названага Ільёй, але праз тры дні пайшла з жыцця з-за радзільнай гарачкі. Для Фёдара Аляксеевіча гэта стала цяжкім ударам. А праз тыдзень памерла і немаўля.

Праз паўгода цар ажаніўся з Марфай Апраксінай, але неўзабаве раптоўна памёр у Маскве на 21-м годдзе жыцця, так і не пакінуўшы спадкаемцы.

У 1929-м Узнясенскі манастыр, дзе была пахавана Агафія, быў разбураны, а белакаменныя саркафагі з рэшткамі царыц вывезены ў падземную палату паўднёвай прыбудовы Архангельскага сабора, дзе знаходзяцца і дагэтуль.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Пасмяёмся ў Капылі

**Капыльшчына здаўна славіцца гумарыстычнымі і гульнёвымі традыцыямі. У 1990 г. тут быў арганізаваны першы ў вобласці тэатр гульні і гумару «Капыльскія пацехі», які пазней стаў ініцыятарам правядзення аднайменнага абласнога фестывалю.**



Вядучыя Антон Шышмароў і Вольга Даманская.



Удзельнікі клуба нацыянальнай кухні «Лотвінскія ўдалухі».

Як, хто і чаму жартаваў у Капылі на V абласным фестывалі гумару і гульні «Капыльскія пацехі», можна даведацца з 10-га нумара часопіса «Вожык». Спецвыпуск, падрыхтаваны пры падтрымцы Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама, Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці і аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Капыльскага райвыканкама, багаты на інтэрв'ю, фотаздымкі, жарты, песні, прыпеўкі, маналогі...

Сёлета на свята прыехалі ўдзельнікі з 15 рэгіёнаў Міншчыны (сярод іх — дзевяць калектываў са званнем «народны»), а таксама госці: жартоўны гурт «Спораўскі акалот» з «брэсцкай» сталіцы гумару — вёскі Спорава Бярозаўскага раёна.

Адкрываючы фестываль, начальнік Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама Руслан Трухан перадаў словы прывітання гасцям і ўдзельнікам свята ад старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёна Шапіры. Прысутных вітаў старшыня Капыльскага райвыканкама Анатоль Жданеня.

Пасля ўрачыстага адкрыцця фестывалю пад назвай «Вясёлы курапёт» (увогуле ўся конкурсная праграма была прысвечана... курам) пачалося прадстаўленне з удзелам жартоўных гуртоў, гульнёвых калектываў, індывідуальных выканаўцаў. Словам, як і было заяўлена: «Куранят па восені лічаць».

Кампетэнтнае журы налічыла ажно 27 конкурсных праграм. Лічылі: старшыня журы — Анатоль Акушэвіч, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь (дарэчы, даўні сябар часопіса «Вожык» і шматгадовы член рэдкалегіі выдання), Раіса Вайцяхоўская — дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, Юлія Зарэцкая — галоўны рэдактар часопіса «Вожык», Мікалай Пытляк — рэжысёр народнага тэатра (г. Беразіно), ініцыятар правядзення абласнога фестывалю народных тэатраў «Бярэзінская рампа», Ілья Казаноўскі — майстар размоўнага жанру, прадзюсар тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор».

Між тым, пакуль на сцэне спявалі, танцавалі ды жартавалі, паблізу працавалі гульнёва-забаўляльныя і гандлёва-дэгустацыйныя пляцоўкі — алея атракцыёнаў «Тут гульні і забава, адпачыць — твая справа», дзіцячы гарадок «Курам для смеху, а дзецям на пацеху», забаўляльна-дэгустацыйны куток «Птушыны падворак», гандлёва-забаўляльны прыпынак «Смачны сытны перакус любіць кожны беларус», спартыўны пляц «Здароваму — і смех на здароўе». Хтосьці паўдзельнічаў у конкурсах і атракцыёнах, хтосьці смачна пад'еў, хтосьці набыў арыгінальны сувенір, а хтосьці пайшоў дахаты з «латарэйнаю» курыцаю пад пахай!.. Урэшце ўсе гумарысты аджартаваліся, публіка ўволю насмяялася, а журы ўзялося за нялёгкую працу. Пераможцы былі вызначаны ў некалькіх намінацыях і прызавых месцах.

У намінацыі «За захаванне і развіццё традыцый народнага гумару» дыпломамі I ступені ўзнагароджаны народны тэатр народнага гумару «Спораўскі акалот» Спораўскага ЦК. Дыпломы I ступені атрымалі народны жартоўны гурт «Цешча» Ратамскага СДК Мінскага раёна (намінацыя «За творчае ўвасабленне традыцый народнага гумару ў жартоўных праграмах») і клуб нацыянальнай кухні «Лотвінскія ўдалухі» Лотвінскага СДК Капыльскага раёна («За творчае развіццё гульнёвых традыцый»). У намінацыі «За лепшае выкананне прыпеўкі» дыпломам I ступені адзначана народнае аматарскае аб'яднанне «У коле сяброў» Жодзінскага ГДК. Пераможцам у намінацыі «За аўтарскую творчасць, прапаганду гумару і выканальніцкае майстэрства» стала Вольга Ліс (г. Капыль). А вясёлыя вядучыя — Курачка (Вольга Даманская) і Певень (Антон Шышмароў), якія з гумарам прадстаўлялі ўдзельнікаў конкурснай праграмы, сталі дыпламантамі ў намінацыі «Самы яркі сцэнічны вобраз».

Пераможцы атрымалі дыпломы і каштоўныя падарункі, а ўсе прысутныя — цудоўны настрой, усмешкі і зарад бадзёрасці ажно да наступнага фестывалю. Сустрэнемся ў Капылі!

**P. S.** *«Вожык» неадноўчы пісаў пра гэты фестываль — адзін са старэйшых у Беларусі. Мінулы раз, у 2011 годзе, свята было прысвечана 115-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы і 70-годдзю альманаха сатыры і гумару «Вожык».*

*Сёлета таксама адбылася прэзентацыя часопіса «Вожык». Ад Выдавецкага дома «Звязда» пераможцы атрымалі ганаровыя граматы, а таксама каштоўныя падарункі — кнігі з серыі «Бібліятэка «Вожыка» ды сувеніры.*

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# «Вожык» гутарыць пра фестываль...

З першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама **Святланай БАРАНОК**.

**— На Міншчыне шмат мясцін, звязаных з беларускім гумарам. У вёсцы Нізок Уздзенскага раёна нарадзіўся патрыярх беларускай сатыры і гумару Кандрат Крапіва. Тут плённа працуюць народныя жартоўныя і гумарыстычныя гурты, тэатральныя калектывы, праводзяцца раённыя святы гумару ў Клецкім, Любанскім, Валожынскім раёнах. У чым, на вашу думку, адметнасць фестывалю «Капыльскія пацехі»?**

— Кожны раз фестываль мае сваю тэму, якой прасякнута ўся канцэпцыя правядзення свята гумару. І гэта цікава. Фестываль дазваляе ўдзельнікам раскрыць свой творчы патэнцыял і, безумоўна, узяць на заметку цікавыя рэжысёрскія прыёмы, сцэнарныя распрацоўкі калег. А для гасцей гэта магчымасць атрымаць цудоўны настрой і закружыцца ў капыльскім карагодзе народнага гумару, гульняў і забаў.

Са старшынёй журы фестывалю **Анатолем АКУШЭВІЧАМ**.

**— Анатоль Леанідавіч, вы доўгі час узначальвалі ўпраўленне культуры Мінаблвыканкама, ведаеце пра культурныя падзеі на Міншчыне... Чым вам падабаецца гэты фестываль? Якія ўдзельнікі запомніліся?**

— Вытокі фестывалю «Капыльскія пацехі» ідуць ад аднайменнага народнага гульнёвага тэатра Капыльскага раённага Цэнтра культуры. Дзякуючы яму і своеасаблівым адносінам капылян да гумару мерапрыемства стала традыцыйным, утварыўся цэлы гумарыстычны рух. З цягам часу вясёлыя нумары пачалі дэманстраваць калектывы з амаль усіх рэгіёнаў Міншчыны, паступова выхоўваючы і заваёўваючы свайго гледача.

Мне спадабаліся самабытныя «Чэрвеньскія балагуры» — яркія прадстаўнікі музычнай сатыры; тэатральны калектыў «Асарці» з жартоўнымі мініяцюрамі; удзельнікі клуба нацыянальнай кухні «Лотвінскія ўдалухі», якія знайшлі зерне гумару ў прыгатаванні высокакаларыйнай ежы; народны жартоўны гурт «Цешча», які змог узвысіць імідж цешчы, станоўча замацаваўшы яе сацыяльны статус; народны гурт народнага гумару «Дубінскія фанабэры» і народны гурт «Смехаўё» — кожны са сваім адметным гумарам і каларытнымі сцэнічнымі вобразамі; цудоўныя акцёрскія работы і прафесійную рэжысуру прадэманстравалі народны жартоўны гурт «Тары-бары».

Госць фестывалю — «Спораўскі акалот» — здзівіў і членаў журы, і гледачоў ёмкім палескім гумарам, паказаўшы своеасаблівы майстар-клас для іншых удзельнікаў гумарыстычнага фэсту. У іх праграме «Мы са Спорава дзяўчаты» дасканала прапрацавана тэма фестывалю — «Куранят па восені лічаць». У калектыве вельмі яркія вобразы жанчын з беларускага Палесся, цудоўная мова і выдатныя акцёрскія работы. Яны стварылі цёплы, пазітыўны настрой. На працягу ўсяго фэсту адчувалася атмасфера свята, творчасці і аднадумства.

З дырэктарам Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці **Раісай ВАЙЦЯХОЎСКАЙ**.

**— Раіса Іосіфаўна, на Міншчыне традыцыйна праводзяцца раённыя святы гумару, абласны фестываль гумару і гульні. Чым, па вашым меркаванні, фестываль кожны раз прываблівае публіку?**

— Таленавітымі, натхнёнымі людзьмі, якія не згубілі пачуццё гумару і ўмеюць не толькі добра працаваць, але і ад душы весяліцца. Таму ўжо ў пяты раз на фестываль з'ехаліся лепшыя калектывы гумарыстычнай і гульнёвай накіраванасці, а таксама самабытныя баечнікі, сатырыкі, парадысты, прыпевачнікі і музыканты. Дзякуючы намаганням арганізатараў, работнікаў культуры Капыльскага раёна фэст стаў сапраўдным кірмашом гумару і весялосці, музыкі і гульні.

Прыемна, што сярод журы і гасцей фестывалю трэці раз запар нашы даўнія сябры — супрацоўнікі часопіса сатыры і гумару «Вожык», першым галоўным рэдактарам якога быў беларускі драматург і байкапісец з Уздзеншчыны Кандрат Крапіва. Удзельнікі нашага фестывалю часта звяртаюцца да яго неўміручых твораў.

З членам журы фестывалю галоўным рэдактарам часопіса «Вожык» **Юліяй ЗАРЭЦКАЙ**.

**— Юлія Францаўна, вас неаднойчы запрашалі ў журы гэтага фестывалю, вы назіралі за рознымі калектывамі і нумарамі... Якія ўражанні ад сёлетняга свята? Каго з удзельнікаў хацелася б адзначыць асобна?**

— Уражанні цудоўныя. «Капыльскія пацехі» — адметнае свята: і прыязнай атмасферай, і цікавымі калектывамі, і арыгінальнымі нумарамі. Выклікае вялікую прыхільнасць да сябе народны тэатр народнага гумару «Спораўскі акалот». Людзі шчырыя, адкрытыя, самаіранічныя (а іронія, між іншым, абавязковы элемент беларускага народнага гумару), сучасныя (адзін спораўскі рэп чаго варты!), пазітыўныя. Трымайце свой узровень, спораўцы, і павышайце яго!

Вельмі падабаецца тэатральны калектыў «Асарці». Дзяўчаты прыдумляюць цікавыя сітуацыі, выдатна прадуманы вобразы кожнай гераіні: адзенне, прычоска, макіяж... І — заўважце — гэта мімы: яны працуюць без слоў. Ты разумееш іх праз ігру — а гэта вельмі няпроста.

Хочацца таксама сказаць пра народны жартоўны гурт «Тары-бары», які варта было б, відаць, адзначыць лепш. Гэта сапраўдныя акцёры, якія выдатна выканалі свае ролі. Арыгінальныя касцюмы, музычнае афармленне, трапныя дыялогі...

А ўвогуле карціць назваць многіх: і таленавітую творчую асобу Вольгу Ліс, і народны мужчынскі жартоўны гурт «Чэрвеньскія балагуры», і народны тэатр народнага гумару «Дубінскія фанабэры», і жаночы вакальны гурт «Ивушки», народны тэатр гульні і гумару «Капыльскія пацехі»...

У той жа час хацелася б перасцерагчы ўдзельнікаў фестывалю ад засілля «традыцыйных» тэм — чаркі і скваркі, прыгнечанага мужа, з якога здзекуецца жонка, дрэннай цешчы і добрага зяця... Некаторыя калектывы, што злоўжываюць такой тэматыкай, так і не змаглі стаць пераможцамі фестывалю.

Хацелася б бачыць больш сучасных тэм. Не варта самім сабе звужаць тэматыку, «прызямляцца», карыстацца архаічнымі прыёмамі. Сярод удзельнікаў нямала моладзі. Няўжо яны не хочуць пажартаваць пра сваё, пра маладое? Жартуйце арыгінальна. Тады і гасцей свята дабавіцца, і фестываль набудзе яшчэ большую вядомасць. А «Капыльскім пацехам» — жыць і развівацца!

# Песняры. Сустрэча па-над часам



*Якуб Колас і Янка Купала.*

**Прэм'ера спектакля пра Уладзіміра Мулявіна адбылася ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага. П'есу «Пясняр» напісаў Васіль Дранько-Майсюк. Для тэатральнай Беларусі твор, прысвечаны заснавальніку ансамбля «Песняры», стаўся сапраўднай сенсацыяй.**

НАДТ імя М. Горкага — адзін з самых рускіх тэатраў Мінска: з айчыннай тэматыкай звязаныя толькі падзеі «Пане Каханку» Андрэя Курэйчыка. «Пясняр» — пастаноўка двухмоўная.

Для Васіля Дранько-Майсюка гэта драматургічны дэбют. Паводле сюжэта, галоўны герой, ролю якога сыграў Сяргей Жбанкоў, сустракаецца з класікамі, на чые вершы абапіраўся ў сваёй творчасці (Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Цёткай), і вядзе з імі размову. Роля Янкі Купалы аддадзена Аляксандру Ждановічу. Якуба Коласа сыграў Андрэй Захарэвіч. Цікава, што ў студэнцкія гады ён выконваў галоўныя ролі адразу ў двух спектаклях па нацыянальнай класіцы: «Дзікае паляванне караля Стаха» У. Караткевіча і «Пайсці і не вярнуцца» В. Быкава. Вобраз Максіма Багдановіча ўвасобіў Іван Стральцоў, які прыйшоў у Рускі тэатр у снежні мінулага года. Цётку сыграла Настасся Шпакоўская, вядомая па пастаноўцы «Легенда пра беднага Д'ябла» У. Караткевіча.

— Мяне больш цікавіла цвёрдая, сумленная творчая пазіцыя, а не асабістае жыццё, — адзначала галоўны рэжысёр спектакля Валянціна Еранькова.



*Фота з архіва НАДТ імя М. Горкага*

*Сцэна са спектакля «Пясняр» (у цэнтры Уладзімір Мулявін).*

Дзякуючы У. Мулявіну беларуская песня і паэзія сталі часткай сусветнай культуры, захаваўшы яркую індывідуальнасць.

Як узнікае каханне? Як нараджаюцца вершы і музыка? Якую песню хочацца слухаць і сёння, і праз шмат гадоў? Непрадказальны, нават жорсткі, але ў той жа час рамантычны, вельмі музычны і шчыры спектакль «Пясняр» — адказ на гэтыя пытанні.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Нябесная гармонія

Творчасць заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Івана Дмухайлы складае адну з прывабных старонак гісторыі беларускага пейзажа. Яго цэняць калекцыянеры, паважаюць калегі, а палотны жывапісца ўпрыгожваюць шматлікія беларускія музеі і незлічоную колькасць галерэй па ўсім свеце. З нагоды 100-годдзя з дня нараджэння мастака ў залах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Спрадвечная прыгажосць».

Яшчэ ніколі творчасць майстра не была прадстаўлена так поўна: каля ста работ станковага жывапісу, графічныя партрэты, намаляваныя Мікалаем Чурабам,



*«Лясная рака», 1994 г.*



*«Сланечнікі», 1993 г.*

жывапісны партрэт пэндзля Валянціна Савіцкага, фатаграфіі з сямейнага архіва і асабістыя рэчы. Шырока прадстаўлены лірычныя, вясковыя і гарадскія пейзажы. Сюжэтная блізкасць зусім не робіць іх падобнымі. Час ад часу майстар звяртаўся да партрэта і нацюрморта.

Творчасць І. Дмухайлы мае ўкраінскія карані: нарадзіўся ў сяле Топчына Днепрапятроўскай вобласці. Любоў да жывапісу ў малога Івана ўзнікла, калі дзядзька падарыў яму некалькі каляровых алоўкаў. Нельга забываць і пра творчыя гены: адзін дзед будучага пейзажыста быў іканапісцам, другі выступаў у драматычным тэатры. У 1939 годзе І. Дмухайла скончыў Днепрапятроўскае мастацкае вучылішча. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пасяліўся ў Беларусі: спачатку ў Брэсце, потым пераехаў у Гродна, а пасля — у Мінск. Тут, у сталіцы, працаваў у адзін час з Вітольдам Бялыніцкім-Бірулем, Віталем Цвіркам, Іванам Рэем.

Празрыстае святло ў палотнах Івана Дмухайлы — галоўная адметнасць стылю, які не зблытаеш. Работы мастака вызначаюцца стабільнасцю, гармоніяй, цэласнасцю. І менавіта ў гэтай стабільнасці, якая выяўляе духоўную глыбіню, глядач убачыць адзін з пластоў развіцця сучаснага беларускага мастацтва.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Узнагарода за праўду

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа быў запрошаны на IV Міжнародны тэатральны фестываль «Родниковое слово» імя Фёдара Абрамава, які ладзіўся ў расійскім Архангельску. У форуме бралі ўдзел творчыя калектывы з Расіі, Германіі, Турцыі. Беларусь удзельнічала ўпершыню.**

На вялікай сцэне Архангельскага тэатра драмы імя М. В. Ламаносава НАДТ імя Якуба Коласа паказаў спектакль «Пахавайце мяне за плінтусам» паводле аповесці сучаснага расійскага пісьменніка Паўла Санаева ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі і прэміі «За духоўнае адраджэнне», прафесара Валерыя Анісенкі. Творчая работа коласаўцаў была вельмі цёпла прынята публікай і журы, якое ўзначаліла доктар мастацтвазнаўства, прафесар Алена Дунаева (Масква). Асаблівае захапленне выклікала выступленне заслужанай артысткі краіны Тамары Скварцовай у ролі Бабулі. Рашэннем журы яна была адзначана дыпломам «За псіхалагічную праўду вобраза ў сцэнічным увасабленні сучаснай прозы».

Дарэчы, трагікамедыя «Пахавайце мяне за плінтусам» возьме ўдзел у заключным этапе III Рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія», што адбудзецца ў лістападзе.

**Юрый ІВАНОЎСКІ,**
**літаратурны рэдактар НАДТ**
**імя Якуба Коласа**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2296.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 16.10.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4111.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686